# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

**КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК**

**№ 1 ЖНІВЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 1939 г. ГОД IV**

МАКСІМ ТАНК

## СЯГОНЬНЯ

*Р. Шырме*

Хай не спрачаюцца сярпы,
стальныя косы ля парканаў:
які ўмалотныя снапы
на нівах узьмяцеляць танец;
якая радасьць будзе ў нас,
у жытніх каласяных тонях,
якімі песьнямі вясна
сыпне на чорныя далоні!

Перш гэта ў казках песьняроў
цьвіло і ў сьвятаянскіх явах.
Але сягоньня серабром
льняным сьцяліце стол і лавы.
Зара палошча вочы шыб
і поіць вецьце ліпаў голых.
Хай цесным кругам у цішы
зьбярэцца, сядзе наша моладзь.
І разбудзіце старыкоў!
Ды месца-б вы далі Раіне!
Хай слухае і малаком
грудзей набракшых корміць сына.

І што запець у гэткі дзень,
калі ад ветру звоняць вокны
і сонца ўсходзючы вядзе
смыком распаленым па кроквах,
па хвалях Нёману, Вяльлі...
а рэкі сінія іграюць,
як мачты некалі плылі,
бурштынам плачучы па краю?

Дагэтуль пелі мы няраз
пра долю горкую краіны.
І галасоў плыла зара
на усхвалёваных раўнінах.
Але схаваныя расьлі
пра волю дзіўныя напевы.
Няраз агнём яны цьвілі
і гаварылі громам гневу.
Для іх шырэйшых трэба ніў!
Бо кожны раз палаюць сьцены,
калі акордаў новы ўзрыў
гарачай закіпае пенай.

Ўжо рвецца за зьвяном зьвяно
і хмар апошніх цені — сільля.
Ўздымайце-ж горда за вясной
палаючыя песень крыльля!
Што-ж ценіць вочы рукавом
ад сьлёзаў сонечных Раіна?
Хай слухае і малаком
грудзей набракшых корміць сына!

* * *

Ад ветру на полі схіляецца колас,
і пыл засьцілае дарогу-прасёлак,
і хвалі цямнеюць на возеры сінім,
і ў лузе каралі губляе рабіна,
і ліст у садох ападае з ігрушаў, —
і толькі бяз ветру
народны край сушыць.

Вільня, 25.II.39.

# П Е С Ь Н Я

Нялёгка жывецца на сьвеце. Увесь час ідзе безаглядная, жорсткая барацьба за існаваньне. Чалавек змагаецца з сіламі прыроды, вырывае з нязычлівых яе рук варункі свайго жыцьця. Змаганьне гэтае ідзе ад часоў, як толькі чалавек паявіўся на зямлі. Ды апрача барацьбы з сіламі прыроды, ідзе яшчэ стала змаганьне ня менш жорсткае, змаганьне чалавека з чалавекам, змаганьне кляс і народаў за хлеб, за асьвету, за волю. Хто дужэйшы, больш вытрывалы, мае ў сваіх руках магутнейшае аружжа, той перамагае, той пануе. Гора іншым. Калі ня палі ў гэтым змаганьні — чакае іх вызыск, нядоля і няволя.

Усё выкарыстоўваецца ў гэтай барацьбе, як аружжа, пачынаючы ад тонкай дыплямацыі і канчаючы на танках, браняносцах і бомбавозах. Але трэба помніць, што аружжам, і то аружжам вельмі магутным у гэтай барацьбе, зьяўляюцца і — мастацтва, літаратура, музыка, песьня.

Сілу песьні чалавек адчувае не ад сяньня. Прыйшла яна на сьвет разам з ім. Разам з ім расла, мацнела, разьвівалася. Сваімі рытмічнымі тонамі памагала пры цяжкой працы мускулаў; з песьняю лягчэй было выліваць сум, тугу, або радасьць, вясельле. Песьня лучыла грамаду, племя, народ, сацыяльную клясу, склікала да дзеяньня, да змаганьня, вяла ў бой за сьвятыя справы, за волю.

Скуль-жа чэрпае песьня сваю моц? Справа ў тым, што сухое, слоўнае пераконываньне астанецца заўсёды толькі выцьвіўшай, бледнай, згубіўшай сваю моц, фатаграфіяй праўды. А тымчасам песьня б'е безпасярэдне ў пачуцьцё, змушае быццам нанава перажываць радасьць, ці крыўду, ненавісьць. Праз песьню чалавек куды мацней і глыбей, усім чуцьцём сваей душы чуе і разумее тую-ж праўду, тую-ж ідэю, чым каб нехта аб ей гаварыў, — хай сабе і цэлымі гадзінамі. Мэта песьні — будзіць і ўзбагачываць духовае жыцьцё чалавека, падымаць ягоны настрой і гэтым самым павялічываць у ім маральныя і фізычныя сілы, павялічываць вытрываласьць у жыцьцёвай барацьбе. Значэньне і сіла яе вялікая, незаступная. І таму ня дзіва, што не адна Бастылія чалавецтва ў гісторыі людзкасьці пала пад звон рэвалюцыйнай песьні.

Ня трэба таму дзівіцца, што змагаюцца і за самую песьню. Зразумелым таму стаецца, чаму ворагі народу сіляцца адабраць яму ягоныя песьні, зьнішчыць іх, падсунуць яму песьні снатворныя, якія ўспакайвалі-б, вучылі-б ціха зносіць путы, забывацца пра іх. А часамі даходзяць навет да таго, што фалшуюць ягоныя ўласныя песьні, падсоўваюць у іх свой, карысны сабе зьмест...

Здаровы народ, які яшчэ мае прыродныя сілы жыцьця, ніколі не пазваляе забіраць сабе свае песьні, а заўсёды наадварот — шануе і паважае свае старыя песьні, твораныя яшчэ прадзедамі, а таксама творыць новыя, патрэбныя да новых варункаў жыцьцёвага змаганьня, у якія ўкладае сьвежы, актуальны зьмест. Жывы народ ніколі ня кідае свае песьні. Ц. Кольбэрг гаварыў: „народ, што перастаў пяяць, перастаў жыць“. І сапраўды: той народ, што ўжо выракся сваіх песьняў, што ня творыць новых, а пераняў і жыве чужымі, — гэта ўжо не народ, а падгалосак іншай нацыі.

Мы, беларусы, маем многа песьняў, якія ўжо ад тысячалецьцяў вырасьлі ў народзе, у якіх гэтая тысячалетняя гісторыя адбілася, як у люстры. У іх пераказаная доля і нядоля многіх пакаленьняў нашых прадзедаў, у іх увесь доўгі наш гістарычны шлях.

Кажуць — яны сумныя. Але хто добра ў іх услухаецца, той пачуе ў гэтым суме магутную жыцьцёвую векавую тугу — тугу за воляй. Сум гэты ў сапраўднасьці, гэта натуральная, магутная народная туга за сьветлым вольным жыцьцём, якога так доўга нехапала.

Хараство яе пачулі і ацанілі ўжо даўно Глінкі і Карловічы, Цэняць яе высокія мастацкія вартасьці, багацьце зьместу і цяпер. Можа найдаўжэй недацэнівалі яе мы самі. Добра, што цяпер ужо іначай. Цяпер пачалі каля іх хадзіць свае, беларускія, любячыя іх рукі. Паявіліся ўжо свае музыкі - зьбіральнікі, свае кампазытары, свае артысты - сьпявакі і талентныя харавыя кіраўнікі. І таму цяпер багацьце яе паказалі нам ува ўсей красе.

Зьмяніліся часы, людзі, варункі, — мяняюцца і песьні. Балючыя, пільныя справы сяньняшніх дзён твораць і свае адпаведныя песьні. Многа іх у нас паўстала пасьля вайны. Многія з іх, — шырэй нязнаныя, — блудзяць толькі па вясковых хатах і дасюль. У іх адбіваецца ўжо гісторыя дзён найбліжэйшых, справы, якімі жывуць шырокія масы сяньня. Гэта ўжо песьні т.з. „новых дзён“.

Усьведамляючы сабе вялікае значэньне песьні, мусім пільна сачыць за тым, каб наш музычны фронт надалей адпаведна быў дагледжаны, каб патрэбныя песьні паўставалі ўжо ня толькі самі, падсьведама, з награмаджаных пачуцьцяў і жаданьняў народу, але каб — згодна з патрэбай жыцьця — тварыліся ўжо і песьні адпаведнымі мастакамі мэлёдыі і слова. Як народ творчы, жывучы, не пакінем сваіх старых песьняў, песьняў прадзедаў; але таксама не астанёмся — ня можам астацца! — бяз песьняў новых, якіх вымагае сяньняшні трывожны час. Астацца ў сяньняшнія дні бяз гэтага магутнага духовага аружжа мы ні ў якім выпадку ня можам.

# ДА ГІСТОРЫІ ПРАЦЫ НАД БЕЛАРУСКАЙ ПЕСЬНЯЙ

На працягу XIX сталецьця і да сусьветнае вайны з нашага музычнага басэйну чарпалі натхненьне і багата карысталіся нашымі скарбамі прадстаўнікі польскае і расейскае музычнае культуры — Манюшка, Карловіч, Глінка і др.

Толькі на пачатку XX ст. пачынаюцца спробы мастацкае апрацоўкі нашых песень, як самастойнае беларускае народнае творчасьці. У гэтым апошнім сэнсе зьвярнуў увагу на беларускую „экзотыку" ў Расейскай імпэрыі Агрэнеў-Славянскі. Ён атрымліваў авацыі, між іншым, і за нашыя песьні — „Ці ня дудка мая", „Чалавек жонку б'е бічуе" і „Чаму мне ня пець". Але ўсё гэта было разьлічана ім толькі на эфэкт. Трэба было пасьмяшыць і зьдзівіць публіку, паказаўшы „белорусского мужичка". Дый песьня „Чаму мне ня пець" з яе грубым і ня зусім удалым гумарам хутчэй будзе творам шляхоцка-народніцкім, чым беларускім народным. Затым зьяўляецца беларуская опэра Марыі Кімонт „Залёты" на словы Дуніна-Марцінкевіча і аркестровая сюіта Людоміра Рагоўскага, напісаная ім на беларускія матывы. І гэтыя творы з гледзішча сучаснае музычнае тэхнікі даволі такі прымітыўныя. За тое папярэдзіўшая іх „Rapsodia Litewska" для сымфонічнага аркестру, адзін з выдатнейшых твораў Карловіча, стаіць на высокім і праўдзіва мастацкім роўні. Пабудавана яна выключна на беларускіх народных матывах, запісаных самым аўтарам у Віленшчыне, толькі чамусьці названа палітычным тэрмінам „litewska" заместа этнічнага беларускага назову.

У 1910 годзе ў Вільні творыцца першы беларускі хор пад кіраўніцтвам кампазытара Л. Рагоўскага, які ставіць на канцэртах свае аранжамэнты беларускіх песень.

Побач з гэтым ішла праца па зьбіраньню беларускае песеннае творчасьці. Амаль вычарпаны этнографамі слоўны матар'ял да беларускіх мэлёдый. Толькі этнографы, якія працуюць у гэтым часе над вывучэньнем беларускае культуры, вельмі мала месца вызначаюць вывучэньню народных мэлёдый і музыкі. Спатыкаем беларускія народныя мэлёдыі ў даваенных зборніках толькі ў Шэйна, Раманава, Зінаіды Радчэнка і Грыневіча, агулам каля 300 мэлёдый. Як на багатую беларускую творчасьць, сабрана было надта мала.

Беларуская народная песьня — аснова для разьвіцьця беларускае музыкі — адзначаецца задушэўнай мэлёдыйнасьцю і высокай паэзіяй.

Стварыць такую песьню мог толькі народ з вынятковай сілай прыроджанае музычнае здольнасьці. Толькі-ж гэты самы народ у пэрыёд разьвіцьця агульна-эўрапэйскае музыкі XVIII—XIX ст. не стварыў свабоднае мастацка-музычнае літаратуры, якая была-бы роўна багатая з яго музычнай стыхіяй, — не стварыў таму, бо знаходзіўся ў поўнявольніцкім стане, быў пазбаўлены свае інтэлігэнцыі, наагул быў зусім адсунуты „старшымі братамі" ад палітычнага і культурнага жыцьця, ведаў толькі такія дабрадзействы, як няволя, уціск і эксплёатацыя. Ня гледзячы аднак на такую „шчырую апеку", беларускі народ здолеў у песьнях захаваць глыбокую нацыянальную сьведамасьць. На гэткай ніве пасьле буйна закалосяць вызвольна-адраджэнскія ідэалы.

Сусьветная вайна і рэвалюцыя выклікала да жыцьця ідэі самаазначэньня паняволеных народаў. З усіх краін Расеі — з Сібіру, Сярэдняе Азіі, Каўказу, Масквы і Петраграду пацягнуліся дзеля працы над будовай уласнага дому расьцярушаныя на чужыне дзеці гаротнай Беларусі. Але-ж зноў Рыская мяжа разразае жывое цела Беларусі. Гісторыя творыць паабапал гэтае мяжы два цэнтры беларускае культуры: Менск на Ўсходзе і Вільня на Захадзе.



Праф. К. Галкоўскі

Што робіцца і што зроблена для нашае музычнае культуры па той бок мяжы, мы ня маем тут дакладных і пэўных дадзеных, дзеля гэтага затрымаемся над кароткім аглядам таго, якія здабыткі музычнае культуры маюць беларусы на Захадзе, з яго культурным цэнтрам у Вільні.

Буйны рост нацыянальнае сьведамасьці выклікаў да жыцьця каля дзясятку сярэдніх школаў і такія масавыя культурна-асьветныя арганізацыі, як Таварыства Беларускае Школы і Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Кожная такая культурна-асьветная ўстанова вядзе працу над тварэньнем беларускіх народных хораў і аркестраў. Пры гімназіях найлепшыя хоры былі ў Вільні, Клецку, Наваградку, Радашкавічах. Сярод культурна-асьветных арганізацыяў першае месца займае Т-ва Бел. Шк., якое за час свайго існаваньня зладзіла каля паўтары тысячы канцэртаў і спэктакляў. Найлепшыя хоры пры ТБШ былі ў Вялейцы, Наваградку, Запольлі, Навагр. п., Ярэмічах і Новым Сьвержані, Стаўпецкага пав., Вялікіх Грынках, Ваўкавыскага павету, Беластоку і мястэчку Гарадок Беластоцкі. Таксама не малую ролю ў справе пашырэньня песьні выпаўніў і Бел. Інст. Гасп. і Культуры. Найлепшыя хоры Інс-т меў пры цэнтралі ў Вільні і ў м-ку Будславі.

Такі буйны рост культурна-музычнага жыцьця стварыў патрэбу новых і новых аранжамэнтаў народнай песьні. „Лірнік“ Тэрраўскага ня мог задаволіць тых хораў, якія паўставалі па вёсках і мястэчках. Надта прымітыўны спосаб апрацаваньня народных песьняў Тэрраўскім, часта з памылкамі проці гармоніі і чужымі для нашае песьні прыёмамі, робіць яго працу няцікаваю для хору. Трэба было думаць аб новых творах, дзе было-б болей сьвежасьці, а спосаб апрацоўкі вырастаў-бы з самых песьняў. На пэўны час узяўся за працу праф. Галкоўскі, які часта даваў творы высокай мастацкай вартасьці, толькі йзноў спосабы галасавядзеньня не заўсёды былі даступны для правінцыянальных хораў. Праўда, народная мэлёдыя аставалася непарушанаю, але часта была ўквечана далёкімі для народнае песьні формамі гармоніі. Найлепшыя песьні Галкоўскага „Ды хто, ды хто“, „Чорны вочы“, „Чумак“, а таксама народная сюіта „Каханьне“ доўгі час ня зыходзілі з рэпэртуару беларускіх канцэртаў у Вільні і часта даваліся (пакуль было можна) праз віленскае радыё на ўсе польскія стан-

цыі. Прыход Галкоўскага ў беларускую музыку быў вельмі карысны: ён адразу вывёў песьню нашу з рамак прымітыву. Першыя-ж гармонізацыі яго яшчэ ў 1928 г. ўнесьлі сьвежасьць, высокі артызм. Напісаў Галкоўскі, пачынаючы ад 1928 году, 4 гармонізацыі для жаночых народных хораў, 22 ар. для невялікага мяшанага хору, 17 для вялікага, 2 для мужчынскага, 22 солёвыя народныя песьні з акампанімэнтам раялю пераважна для высокага голасу (З.-Суміцкі) і 2 народныя сюіты „Дуда“ і „Каханьне“. Ня спыняўся Галкоўскі на народных аранжамэнтах. Ён першы ў нас на Захадзе дае музыку да паэзіі Купалы, Коласа, Ясакара. Яго свабодная творчасьць складаецца з 5 рамансаў, 3 дуэтаў і аднаго вокальнага квартэту. Апрача таго сюіта „Каханьне“ аркестравана кампазытарам для хору і сымфанічнага аркестру.

Па за Галкоўскім у Вільні працаваў над нашаю песьняю здольны арганізатар харавога сьпеву і кампазытар Т. Уладзімірскі, які зрабіў 11 аранжамэнтаў для мяшанага хору, толькі перадчасная раптоўная сьмерць у 1934 годзе спыніла яго далейшую працу.



А. Грэчанінаў

Адначасна ў Варшаве працуе ў тэй-жа галіне праф. Казура, толькі апранае беларускую музыку пераважна ў польскую слоўную вопратку.

Далей над народнай песьняй працуе малады бел. кампазытар Аўгень Евец, які даў цэлы рад цікавых аранжамэнтаў для мяшанага і асабліва школьнага хору. У часе найбольшага ўздыму культурнага жыцьця працаваў многа над песьняй, як дырыгент і кампазытар, А. Валынчык.

Уся праца ў галіне беларускае музыкі да апошняга часу канцэнтруецца ў Вільні навокал хору Р. Шырмы пры Беларускім Студэнцкім Саюзе. Тут адбываецца сабіраньне народных мэлёдый (болей тысячы); адсюль ідуць ніці, якія лучаць з беларускай песьняй вялікіх прадстаўнікоў музычнае культуры.

Дзеля таго, каб выйсьці ў шырокі сьвет і заняць належнае месца ў сям'і культурных народаў, мала мець багатую народную творчасьць. Трэба, каб з гэтае народнае асновы вырасталі вартасьці агульна-людзкага значэньня. Трэба, каб і наш народ споўніў сваю культурную місію ў гісторыі чалавецтва. Нашы дужыя суседзі, аб якіх была мова на пачатку, сваю народную аснову выкарысталі поўнасьцю, дзеля гэтага сучасная музычная культура іх праходзіць стадыі ўсякіх модэрнізацый, а часта беднасьць ідэі проста прыкрываецца музычным спортам.

Высокія прадстаўнікі музычнай культуры падыходзяць да працы

над народнай творчасьцю з гледзішча агульна - людзкага: іх цікавіць не палітычная тэндэнцыя, што існуе ў даны мамэнт, а тая адвечная краса, якая заложана ў душу народу.

Расейская культура працамі Грэчанінава пачала сплачваць даўгі Беларускаму Народу за ўсё тое, што ёю было запазычана ад нас.

Зацікавіўшыся беларускай народнай музыкай, працуючы ў этнаграфічнай камісіі пры Маскоўскім Ун-це пад старшынствам беларуса прафэсара Н. Янчука, Грэчанінаў і пасьля выезду заграніцу не парывае сувязі з беларускай песьняй. У сваіх мэмуарах „Моя музыкальная жизнь“, выданых у 1934 годзе на эміграцыі, ён некалькі разоў падчырківае, што вывучыў і ведае песьні ўсіх народаў былой Расеі, але найболей палюбіў песьні беларускія, над якімі заўсёды працуе з вялікай прыхільнасьцяй і захапленьнем.



Праф. А. Кошыц

Да гэтага часу тое, што маем на Захадзе, з творчасьці Грэчанінава выглядае так: 16 мяшаных хораў, найлепшыя з іх: „Пірапёлка“, „Перад Пятром“, „Раёк“, „Чаму селязень“, „Конь бяжыць, зямля дрыжыць“ і тры песьні прысьвечаныя Шырме: „Кукавала зязюлька“, „Зялён гай“ і „Ой гыля, гыля, гусі вадою“, солёвыя — „Зазьвінела пчолачка“, „Доля“, „Бяда“, „Вясьнянка“, „Купалінка“, „Калыханка“. „Зязюля“ і 10 папулярных народных песьняў для солёсьпеву з раялем (A. Gretchaninoff, 10 Chanson populaires de la Blanche Russie pour Chant et Piano). Часьць з гэтых солёпесень напісана таксама з акампаньямэнтам сымфанічнага аркестру і выдана ў перакладзе на ангельскую мову. Апрача таго на матывах нашых песень напісана „Беларуская Рапсодыя“ для сымфанічнага аркестру і „Дар Белай Русі“ солё для скрыпкі з раялем на тэму калядкі „Ува Іардані“.

Выхад у шырокі культурны сьвет зроблены. Рост і разьвіцьцё нашае музыкі і песьні ня спыняецца, ня гледзячы на нашы цяжкія умовы. Песьня таксама, як і вялікая ідэя, ня можа быць заціснута штучнымі запорамі. Яна заўсёды свабодная ад людзкіх загародак і шырыцца па ўсім сьвеце.

Цяпер два слаўныя ўкраінскія кампазытары, зачараваныя бяздоннымі крыніцамі беларускае мэлёдыі, твораць і для нашае культуры вялікія скарбы ў далёкай Амэрыцы. Гэта ёсьць прафэсар Аляксандар Кошыц і М. О. Гайворонські, якія за пару год ўжо далі незраўнаныя па свайму мастацтву аранжамэнты беларускіх

песень. Характар іх творчасьці зусім адменны ад таго, што знала дагэтуль беларуская харавая літаратура, — адменны таму, што натуральна і свабодна вырастае з народнага караня, дапаўняючы прыродную поліфонію песьні ў народным духу. Побач з яснай народнай мэлёдыяй ідзе ясная гармонія, такая чыстая і сьпеўная, прадыктаваная народным контрапунктам. Пры гэтым яны ніколі ня зьніжаюць песьні да простага, чужога для мастацтва этнографізму, але разам з тым і этнаграфічных рысаў песьні не мяняюць на штучныя эфэкты і прыкрасы. У сваей тэхніцы абодва кампазытары разнародныя, як таго вымагае тэкст і музычны характар песьні. Слухаючы іх, навет ня знаючы тэксту, мы ведаемо, што гэта зьвіняць валачобнікі, або пяюць каляднікі, мы радуемся на дажынках, калі жняя дзякуе Богу за багатыя плёны, сумуемо з сіратой над магілай маткі і г. д. Ад **кожнае** песьні іхняе вее подыхам сьвежага паветра нашых лясоў і ніваў, чуецца пах сенажацяў, абмытых рачнымі хвалямі. Наша вёска, сталецьцямі аскубаная, загаманіла ў гэтых гуках нячуванаю дагэтуль моваю, — моваю свайго чулага і вялікага сэрца. Новы кірунак створаны ў нашай музычнай літаратуры, дзе высокая музычная культура сплятаецца і арганічна зрастаецца з творчасьцяй нашага народу: вырастаюць новыя і вялікія беларускія скарбы агульначалавечага значэньня.

Праф. А. Кошыц падараваў нам ужо дзесяць аранжамэнтаў, кажды з якіх ёсьць шэдэўрам харавое мастацкае літаратуры. Найлепшыя з іх калядкі — „Там за садамі“, „Прасьвятая Марыя“ і валачобная „Лугам зялененькім“.



М. О. Гайворонські

М. О. Гайворонські даў 13 аранжамэнтаў для мяшанага хору і 5 для жаночага. Найлепшыя песьні — „Ой, загуду“ — сіроцкая, солё для сопрана з хорам, „Лявоніха“, „Ой, гукнула сыраежка“ (жніва), „Ой, у полі дзьве птушачкі“ (ракруцкая) і валачобныя: „Як пайшоў Мікола“ і „Ой. ляцелі ды два галубочкі“. Апрача таго Гайворонські запачаткаваў харавую музыку да слоў нашых паэтаў. Напісана ім тры мяшаныя хоры: „Спакойна дрэмлець Нарач“ і „Прайдуць гады“ (сл. Танка) і „Месяц“ (сл. Коласа) ды адзін жаночы „Дзьве вярбы“ (сл. П. Труса). Кожны з гэтых твораў глыбока прадуманы, і музыка яго цесна сплецена з тэкстам. Пачуцьці паэтаў кампазытар адбівае і дапаўняе гармоніяй свае музыкі.

Беларускі Народ і Грамадзянства павінны ведаць сваіх шчырых прыяцеляў. Бліжэй-

шыя весткі аб Гайворонськім будуць зьмешчаны ў наступных нумарох, як гэта падавалася і аб іншых кампазытарах.

На заканчэньне — яшчэ адна ўвага.

Недастатачна распрацовываць, гарманізаваць і наагул удасканаліваць нашу народную песьню, але трэба знайсьці магчымасьць паказаць яе, даць пачуць усяму сьвету.

Ёсьць у Якуба Коласа апавяданьне „Дудар“, у каторым музыкабеларус апавядае сваім „старшым братом“ казку:

— Пасадзіў пан дудара ў глыбокім склепе за каменныя сьцены. Кажа яму пан: „Грай мне на дудцы, каб я чуў твае песьні, і тады я пазволю табе сьпяваць людзям песьні, дарую права расказаць сьвету пра думкі твае“. Праз каменныя сьцены ня выбілася песьня дудара, і ніхто яго не пачуў. „Ты павінен маўчаць, — кажа пан дудару, — бо песьня твая нічога не сказала майму сэрцу. Няхай астаюцца ў табе твае думкі і песьні“. І дудара з таго часу слухала пустое поле, балота і лес...

Казка гэтая — сымвалічная, бо-ж у такім якраз палажэньні апынуўся Беларускі Народ. Творачы вялікае музыкальнае багацьце ў песьнях сваіх, ён пяяў іх толькі для сябе самога, і ніхто больш пачуць іх ня мог, бо „старшыя браты“ адгарадзілі яго высокімі мурамі ад усяго сьвету. Але вось на нашых вачох пачынаюць вырастаць з народу нашага мастакі-пяюны, каторыя хараством выпаўненьня беларускае песьні прабіваюць гэныя муры. Дагэтуль людзі чулі беларускую песьню адно толькі няўмела пяяную нявыпрабленымі галасамі вяскоўцаў, але і тады яна хараством сваім задзіўляла слухачоў. Цяпер яе, у мастацкай апрацоўцы выдатных кампазытараў, пяюць публічна артысты, сьпеў каторых сам па сабе ёсьць хараство, а ў злучэньні з хараством песьні папросту чаруе кожнага, хто толькі здольны адчуваць красу наагул. Выступленьні ведамага ўжо кожнаму граматнаму беларусу слаўнага сьпявакі нашага Міхала Забэйды - Суміцкага, найвыдатнейшага мастака, каторы ў канцэртных салях і праз радыё гэтак хораша выпаўняе беларускія народныя песьні, раскрылі перад усім культурным сьветам музыкальнае багацьце беларускага народу. Такую-ж ролю выпаўняюць беларускія хоры.

Але адначасна і далей робяцца спробы выкарыстаць гэты буйны расцьвет нашае песьні для сябе, адарваўшы яе ад роднае глебы, апрануўшы ў чужацкую слоўную вопратку. Толькі-ж яна, штучна перасаджаваная дзеля ўзмацненьня чужое культуры, ня цьвіце на чужой ніве вясёлкавымі краскамі народнае гармоніі, а вяне тамака, не пасьпеўшы распусьціцца...

Кажды народ, асабліва-ж народ абяздолены, у музыцы, у любові да песьні бачыць і носіць свае высокія ідэалы. Так было ў балтыцкіх народаў, так было ў палякоў і чэхаў, так ёсьць у ўкраінцаў, так ёсьць і павінна быць у нас беларусаў.

Аднак трэба прызнацца, што ў гэтай галіне нашае культуры ня ўсё яшчэ ў парадку: да гэтага часу ў нас яшчэ ня зусім пазбыліся шляхоцка-рамантычнага прымітывізму канца XIX і пачатку XX стагодзьдзя, а модная палітычная дактрына сяньняшняга дня ў „старшых братоў“ імкнецца сьведама засланіць веліч і красу нашага народнага генія.

Маемо вялікія культурныя здабыткі, якія вырасьлі з нашых народных крыніцаў, але мусімо прылажыць яшчэ шмат працы, каб належна разбудаваць і замацаваць магутны фундамэнт дзеля далейшага культурнага росту.

*Р. Шырма.*

# МУЗЫКА

Жыў на сьвеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго граньню нуда, што аж за сэрца хапала...

Плача скрыпка, льлюць людзі сьлёзы, а музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласьней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачом сьлёзы; так і ўдарыўся-бы грудзьмі аб зямлю, ды ўсё слухаўбы музыку, усё плакаў-бы па сваёй долі...

А бывала яшчэ і так, што музыка быццам вырастаў у вачох людзей і тады граў моцна, гучна: гудзяць струны, зьвіняць рымка, бас як гром гудзіць і грозна будзіць ад сну і заве ён народ. І людзі падыймалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчэлі іх вочы.

Тады бляднелі і трасьліся, як у ліхаманцы, і хаваліся ад страху, як тыя гадзюкі, ўсе крыўдзіцелі народу. Многа іх хацела купіць у музыкі скрыпку яго, але ён не прадаў яе нікому. І хадзіў ён далей між бедным людам і граньнем сваім будзіў ад цяжкага сну. Але прыйшоў час, і музыкі ня стала: злыя і сільныя людзі кінулі яго ў турму, і так скончылася жыцьцё яго... І тыя, што загубілі музыку, узялі яго скрыпку і пачалі самыя граць на ёй народу. Толькі іхняе граньне нічога людзём не сказала. „Добра граеце, — гаварылі ім, — дык ўсё ня тое!“ — І ніхто ня мог растлумачыць, чаму ад граньня музыкі так моцна білася сэрца бедакоў. Ніхто ня ведаў, што музыка ўсю душу сваю клаў у ігру. Душа яго знала ўсё тое гора, што бачыў ён на людзёх; гэта, гора грала на скрыпцы, гэта яно вадзіла смыкам па струнах; і ніводзін сыты ня мог так граць, як грала народнае гора.

Прайшло шмат гадоў з таго часу. Скрыпка разьбілася. Але памяць аб музыцы ня згінула з ім разам. І з-паміж таго народу, катораму ён калісь граў, выйдуць дзесяткі новых музыкаў і граньнем сваім будуць будзіць людзей к сьвету, праўдзе, брацтву і свабодзе.

*Максім Багдановіч.*

---

# ЮБІЛЕЙ Р. ШЫРМЫ

Беларуская песьня з канцэртнае эстрады — здарэньне, як на цяперашні час, вельмі рэдкае ў Вільні. Таму ўзапраўды вялікім сьвятам для беларусаў зьявіўся канцэрт хору Бел. Студэнцкага Саюзу, прысьвечаны 15-угодкам вакальна - мастацкай працы нашага слаўнага дырыжэра Рыгора Раманавіча Шырмы. Канцэрт адбыўся 3 сакавіка, ў салі Ўнівэрсытэту. Кіраваў хорам, як заўсёды, сам юбіляр. Праграма складалася амаль выключна з новых беларускіх песьняў, пераважна народных, ў музыкальнай апрацоўцы Грэчанінава, Галкоўскага, Кошыца, Гайваронськага і інш. Хорам — мяшаным і жаночым — было выканана каля 25 беларускіх песьняў. Слухачоў была поўная саля. Пераважала беларуская студэнцкая і вучнёўская моладзь.

Я ня буду гаварыць тут аб выкананьні праграмы. Як і заўсёды на канцэртах Шырмы, яно было высока-мастацкае. Такімі-ж высокамастацкімі зьяўляюцца і самыя аранжыроўкі песьняў. Саля слухала, як зачараваная, і кожную песьню аддзячвала доўгімі — доўгімі і гучнымі воплескамі. З эстрады лілася праўдзівая беларуская народная песьня — прадукт багацейшае творчасьці Беларускага Народу, выражэньне ягонае душы, многагранная жыцьця і гістарычнай мінуўшчыны. Новым на канцэрце было самастойнае выступленьне жаночага хору, якое зрабіла на ўсіх вельмі мілае і прыемнае ўражаньне.

Канцэрты такога маштабу (ня можам ня ўспомніць тут колькіразовых выступленьняў у Вільні нашага слаўнага сьпявака — салісты М. Забэйды-Суміцкага) маюць вялізарнае значэньне. Яны падымаюць і ўзвышаюць нас, захапляюць творчым энтузіазмам, даюць моцны імпульс да культурна-грамадзкай працы. Прыклад Р. Шырмы паказвае, што каб узбагачаць наш духоўны скарб праўдзівымі культурнымі дасягненьнямі, трэба перш за ўсё захаваць жывую сувязь з народам і ня губляць веру ў ягоную будучыню, ня гледзячы на вельмі няспрыяючыя і проста фатальныя ўмовы жыцьця.

У галіне зьбіраньня народнае песеннае творчасьці, музыкальнага афармленьня і выяўленьня яе шырокаму сьвёту ніхто ў нас столькі не прыслужыўся, як Р. Шырма. Асабліва інтэнсыўнаю становіцца ягоная праца з часу пераезду з Пружаншчыны ў Вільню (1926 г.) (першыя беларускія канцэрты Шырма пачаў даваць у Пружане). Вызначаны на пасаду вучыцеля Віленскай беларускай гімназіі (тады гэта была прыватная школа), Р. Р. з першых-жа дзён пачынае фармаваць вялізарны вучнёскі хор, надаючы яму шырокую і правільную арганізацыю. Рэпэртуар беларускіх песьняў, які існаваў тады, далёка не задаваляе Р. Р., і ён шукае магчымасьцяў прыцягнуць да музыкальнае апрацоўкі беларускіх народных песьняў лепшых кампазытараў, ведамых сваею спагаднасьцю да беларускае народнае творчасьці, да беларускае літаратуры. Першым, да каго зьвярнуўся Р. Р., быў шырока ведамы, і ня толькі на віленскім грунце, кампазытар Канстанцін Галкоўскі (стала жыве ў Вільні). З ягоных аранжыровак амаль выключна складаліся праграмы першых канцэртаў Р. Р. ў Вільні. У Віленскай гімназіі, можна сказаць, зарадзілася *беларуская песьня*, ў мастацкай апрацоўцы; адсюль яна шырока плыве па ўсім беларускім краі, дый і па ўсім сьвеце. Вянком дырыжэрскай і мастацкай працы Р. Р. ў гімназіі быў бліскучы свае праграмаю і выкананьнем „Вечар славянскай песьні“, ладжаны 17.VI.1928 г. На гэтым канцэрце хорам у 70 чалавек і салістамі (дуэты, трыё, квартэт) было выканана каля 15 новых беларускіх песьняў, напісаных спэцыяльна для гэтага канцэрту гр. Галкоўскім. Слаўны кампазытар сам-жа вёў на роялі і акампаніямэнт гэтых песьняў. Уражаньне ад беларускай часьці праграмы, як і польскіх, расейскіх і ўкраінскіх песьняў, сьпяваных так-жа хорам і салістамі, было вельмі сільнае. Вось што пісала „Зара працы“ ў нумары 7. ад 23.VI.1928 г. „Пасьля гэтае вечарыны — піша аўтар зацемкі — чуўся быццам, як кажуць, на сьвет нарадзіўся. Пачуў у сабе прыліў сілы, энэргіі і веры ў тое, што хутка „загляне сонца і ў наша аконца“. Вялікае дзякуй, дзякуй і яшчэ раз дзякуй кампазытару, дырыжору, гімназіяльнаму хору, аркестру, мастаку Васілеўскаму, які так прыгожа намаляваў дэкарацыі (для кожнага аддзелу асобныя) і ўсім, хто прылажыў сваю руку дзеля зарганіза-

ваньня „Вечара“", А вось што напісаў „Кур'ер Віленьскі“ ў № 140 ад 28.VI.1928г. (даём у перакладзе на беларускую мову) : „Вечар славянскай песьні“ ёсьць аднэю з найлепшых праяваў беларускага артыстычнага жыцьця ў Вільні. Такія імпрэзы трэба прывітаць якнайпрыхільней, жадаючы беларускаму грамадзянству ў яго артыстычнай працы добрага і памыснага разьвіцьця“.

Такі быў пачатак мастацкай працы Р. Р. ў Вільні. І па выхадзе з гімназіі (з восені 1928 г. гімназія стала дзяржаўнаю) Р. Р. не перастае думаць аб далейшым узбагачэньні рэпэртуару беларускіх канцэртаў і арганізацыі іх для шырокай публікі. У працягу некалькіх бліжэйшых гадоў і пазьней кампазытары гр. гр. Галкоўскі, Грэчанінаў, Кошыц, Уладзімерскі, Гайваронські і інш. (з усімі імі Р. Р. падтрымлівае жывы кантакт) напісалі надзвычай багатую і прыгожую музыку на тэксты, пасыланыя ім гр. Шырмаю.

Праца Рыгора Раманавіча на Віленскім грунце, ня гледзячы на тое, што вонкавыя ўмовы для яе з кожным годам пагаршаліся, не спынялася ні на водную хвіліну, хіба калі фізычна быў пазбаўлены магчымасьці працаваць за дырыжэрскім пультам: была і такая — нядобрай памяці — пара ў жыцьці Р. Шырмы... Кожны год Р. Р. дае некалькі публічных канцэртаў, якія больш і больш зварочваюць на сябе ўвагу, і не аднаго толькі беларускага грамадзянства.

Некаторыя з сваіх песьняў Р. Р. ужо выдаў двама зборнікамі, у музыкальнай апрацоўцы названых вышэй кампазытараў. Даўно падгатовіў Р. Р. і яшчэ адзін вялізарны зборнік беларускіх песьняў спэцыяльна для школаў і народных хораў. Гэты зборнік (70 песьняў) гады тры таму назад быў на разглядзе ў Кураторыуме і Міністэрстве Асьветы, меўся быць выданы іхнім коштам, але дасюль гэта справа „угразла на мёртвым пункце“. Ня ведама, ці выйдзе калі... Добра было-б, каб знайшоўся які прыватны выдавец з беларусаў.

А колькі-ж моладзі, вучнёўскай і студэнцкай, узгадаваў на беларускай мастацкай песьні Р. Р. за гэтыя 15 гадоў. Як пашырылася, дзякуючы яму, беларуская песьня! Не гаворачы аб шматлікіх канцэртах і многа разоў сьпяваных беларускіх калядках, напісаных па просьбе Р. Р. памянёнымі кампазытарамі на словы народных сьвяточных песьняў, успомнім хаця-бы некалькі канцэртаў, наданых па радыё (на жаль, з 1937 г. ўжо не надаюцца, „па незалежных прычынах“). Вялікае наагул Шырма выклікаў зацікаўленьне беларускаю песьняю і ў Вільні, і па-за Вільняю, сярод людзей рознай культуры і розных нацыянальнасьцяў. Ня злічыць, колькі ён завязаў сваёю працаю знаёмства з людзьмі песьні і музыкі. Кожны чагосьці просіць з ягонага багацьця, кожны чакае якойсьці рады ці помачы, кожнаму ён патрэбны, — Р. Р. дарагі госьць на канцэртах і расейскіх, і ўкраінскіх, і жыдоўскіх, і польскіх. Дзякуючы яму ўсюды можна пачуць арыгінальную або ў перакладзе беларускую песьню.

Адначасна з гэтаю работаю Р. Р. ўпарта прадаўжае пачатае ім яшчэ перад сусьветнай вайной зьбіраньне беларускіх н а р о д н ы х песьняў, якіх цяпер у ягоным зборы налічваецца больш за тысячу, пры чым гэта ўсё песьні арыгінальныя, нідзе не надрукаваныя і мала каму ведамыя. Песьні гэтыя сабраны бяз вынятку з усіх кутоў нашае Бацькаўшчыны, найбольш з роднае Пружаншчыны, Беласточчыны, Вялейшчыны, Ваўкавшчыны і інш.

Уся вось гэтая, так шырокая і разнаякая праца, асабліва падгатоўка канцэртаў, зьвязана была з вялікімі труднасьцямі і перашкодамі,

і толькі такі моцны духам, такі грамадзкі і ахвярны чалавек, як „Дзядзька Рыгор“, мог іх перамагаць. Вось хоць-бы ўзяць і сьпеўкі. Гэтае чорнае і маруднае працы ніхто з публікі на канцэртах разумеецца, ня ведае, ня бачыць... А перапіска нотаў, іншы раз па два і болей экзэмпляраў на кожны голас, калі хор вялікі? Другі на месцы Р. Р. даўно-бы кінуў усю гэтую няўдзячную працу, тым балей, што калі ён і мае якую карысьць ад канцэртаў, то далёка не заўсёды, і карысьць вельмі мізэрную, якая не акупляе нават паперы на перапіску нотаў. Але-ж Шырма ў галіне беларускай песьні ніколі не працаваў для карысьці.

Праца, выкананая Р. Шырмаю ў працягу мінулых 15 гадоў, ужо ўвайшла *у гісторыю беларускага музычна - вакальнага мастацтва.* У гэтым адношаньні можна нават гаварыць аб цэлым *перыядзе* створаным ім (на гэтым боку рыскае мяжы). Да Р. Шырмы мы мелі прымітыў ці фольклёр, цяпер-жа дзякуючы перш за ўсё ягонай ініцыятыве — маем багацейшы рэпэртуар *па мастацку апрацаванай беларускай народнай песьні.* Узяўшы яе ад народу ўва ўсей яе першабытнай прастаце і беспасярэднасьці, Р. Шырма зноў зьвярнуў яе творцу і гаспадару, беларускаму народу, зьвярнуў удасканаленую, шырока разбудаваную, нічога ня страціўшую ў сваей самабытнасьці, захаваўшую цалком свой праўдзіва - народны характар. Вось чаму выконваныя на канцэртах Шырмы гарманізаваная песьня беларуская выклікае такое шчырае захапленьне, вось чаму яна шырока пайшла „на падбой сьвету; таму

„Хай прабудзіць яна рэха сярод вёсак, гарадоў.
Хай ўпадзе людзям ў сэрца, расхвалюе ў жылах кроў,
Хай ляціць праз сенажацьці, цёмным лесам здрыгане,
Усё гора, ўсю нядолю з Беларусі пражане“.

Р. Шырма ёсьць першы і пакуль адзіны ў нас дырыжэр, які паказаў праўдзіва мастацкае выкананьне беларускае гарманізаванае песьні, выявіў яе хараство, падняў на ўсю вышыню вымаганьняў шырокай, музычна адукаванай аўдыторыі. Гэтую заслугу разьдзяляюць з ім і яго шматлікія супрацоўніцы і супрацоўнікі — харыстыя, якія могуць быць толькі ўдзячнымі, могуць толькі гардзіцца, што выйшлі з школы Р. Шырмы.

Шчырая падзяка ўсім слаўным нашым Кампазытарам!

Слава Хору, а перад усім яго талантліваму Дырыжору! Слава!

**С. Паўловіч**

МАКСІМ ТАНК

## ЗАБЭЙДЗЕ - СУМІЦКАМУ

Пойдзеш ты нераз па сьвеце з песьняй,
воплескі рассыпяць табе градам, —
але не забудзеш ты Палесься,
не забудзеш край свой на эстрадах.

А калі спаткаеш людзей сьмелых
і людзей такіх як мы ў нядолі, —
не забудзь — запей аб Русі Белай,
і аб нашых песьнях, і аб волі...

А. ГОРНЫ

# МІХАЛ ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ

> O białoruska pieśni! Ty, jak kraj ten cały,
> Posępny nosisz wdzięk;
> Kurhany i mogiły nutę ci podały
> I kmieciów dawnych jęk...
> Dziś kwitniesz dziko w zapomnieniu;
> Lecz gdy cię wzniesie mistrz w natchnieniu,
> Świat uczci ciebie w podziwieniu,
> Bo nowy dasz mu dźwięk.
>
> *Wiktor Gomulicki, 1908 r.*

Дачакалася наканец беларуская песьня мастака-майстры, які праз эстрады канцэртных саляў, праз радыё, вынес паказаць яе красу „на сьвет цэлы“; мастака, пра якога ўжо трыццаць гадоў таму прарочыў польскі пясьняр Гомуліцкі.

Ношаная дасюль толькі ў мільёнах сэрцаў пад зрэбьем кашуляў, гадаваная вякамі толькі пад стрэхамі вясковых хат, пяяная толькі ў полі і дуброве, гэтая лапцюжная мужычая песьня палілася раптам разам з італьянскімі „Sancta Lucia“, з вычурнымі опэрнымі увэртурамі, з блёскучых канцэртных эстрад гарадоў.

Яшчэ перад вайною ў шырокі сьвет, „у людзі“, разам з Купалаю, пайшла беларуская песьня-паэзія; у часы вайны і рэвалюцыі „на мапу Эўропы ўзыйшоў беларус“ у сэнсе палітычным; цяпер-жа ізноў у сьвет шырокі вуснамі і талентам сына народу пайшла векавая народная песьня. Пайшла, каб дзівіць і чараваць сваей красой, каб прыпамінаць і знаёміць аб шматмільённым беларускім сялянскім народзе.

Неяк за апошнія гады паўстаў звычай, што вялікія таленты-самародкі загараюцца на нашым культурна-нацыянальным небасхіле адразу, раптоўна, — як мэтэоры. Так у паваеннай літаратуры зьявіўся і заблішчэў нечакана Максім Танк; так у неспадзеўкі прыбыў нейдзе аж з-за Уралу і Сібіру, макам чырвоным расхінуўся перад намі сьпявацкі талент Міхала Забэйды-Суміцкага.

Вырваны вялікай сусьветнай завірухай з роднай вёскі на Палесьсі, — з Шэйпякоў Косаўскага павету, — мастак, яшчэ малады хлапец, быў кінуты, як бежанец на бурныя хвалі ваенных часоў. У гады, калі над спавітаю калючым дротам Беларусьсю вялі гарматы свой сьмяротны разгавор, — малады, з чулаю душой паляшук апынуўся аж у далёкай Манджурыі, у Харбіне; там рос, там крэп як сьпявак, там былі першыя выступы на эстрадзе!

Пасьля — ад 1932 году — Італія. У бацькаўшчыне сьпевакоў і музыкаў мастак дасканаліць свой голас, пад кіраўніцтвам найлепшых прафэсароў сьпеву, сьпеліць свой буйны талент. І ў канцы, пасьля дваццацілетняй блуканіны па сьвеце, — паварот на бацькаўшчыну, першая сутычнасьць, ужо як слаўнага салісты, з сваімі натуральнымі слухачамі, з суродзічамі. Будучы і дзесяткамі гадоў далёка ад краю, мастак не забыўся беларускай песьні, краса якой запала ў ягоную душу яшчэ ў дзіцячыя гады, незабыўся „пра напевы і пра песьні сваей маткі“. І цяпер часта з эстрады зазначае, што навучыўся той ці іншай песьні ад сваей маці.

Першы раз перад беларускай саляй Забэйда-Суміцкі выступіў у сьнежні 1936 г. на вялікім канцэрце ў Вільні. Спачатку спаткалі ўсе сьпявака толькі з цікавасьцю, як нейкую звычайную навінку, — было-ж ужо многа салістаў, што пялі беларускія песьні. Усе яны неяк не зрабілі паважнейшага ўражаньня. Ніхто ня знаў бліжэй новага сьпявака, — ня было падстаў спадзявацца нечага цікавейшага і цяпер.



Міхал Забэйда-Суміцкі

Але пасьля першай песьні здрыганулася саля градам воплескаў. А далей ім і канца ня было. Многа прышлося бісаваць, пяяць панадпраграму. І так ужо ад гэтага часу асталося на заўсёды. Кантакт, які навязаў мастак красой песьні з слухачамі, шчырае захапленьне і ўдзячнасьць, — асталіся, і часта выбухалі яшчэ жывей на ўсіх наступных канцэртах. Заўсёды спатыкалі мастака і разьвітываліся з ім воплескамі і краскамі, заўсёды дарылі сэрцам і энтузыязмам. Асабліва моладзь. Няраз з эстрады на руках зносілі.

І нічога дзіўнага. Мастак з такім талентам передае ўсю красу песьні, — ці гэта будзе народная, ці кампанаваная, — крыштальна цянюе настроі мэлёдыі, чыста, з артызмам вымаўляе словы, і да ўсяго гэтага дадае яшчэ арыгінальную інтэрпрэтацыю свайго багатага мастацкага інтэлекту.

Усё гэта можа толькі ацаніць той, хто хаця раз прыслухаўся да таго сумнага, мінорнага лірызму такіх песьняў, як: „Малады дубочак", „Як памёрла матулька"; да поўнага гарачых жаданьняў моладасьці „Ці грэх цябе любіць", да тонкага гумару вясёлых песьняў-прыпеўкаў „Цераз сад-вінаград", „Кукавала зязюлька" і інш. Але найбольшы ентузыязм усюды і заўсёды спатыкае „Лявоніху" (інтэрпрэтацыя Забэйды) у працяжным, задорным крыку, якім сьпявак яе пачынае, удала схоплены ўвесь кіпучы разгул вясковай вечарынкі. „Лявоніха" Забэйды, гэта бурлівая, кіпучая праз берагі моладасьць, бадзёры задор вясковага юнацтва. І нічога таму дзіўнага, што слухаючым яе загараюцца радасным сьмехам твары і вочы, прыбывае маладых сіл да жыцьця.

Культурна-нацыянальнае значэньне для нас Забэйды аграмаднае. Ён сваім талентам паказаў красу нашай песьні і нам, і чужым. Радыям (крыху даўнейшымі, яшчэ „лепшымі" часамі...) кінуў іх на хвалі эфірнага прастору, кінуў „на сьвет цэлы". Дзесяць песьняў напяяных на грамафонныя пліткі разыйшліся і разыходзяцца як тут у краі, так і вандруюць далёка за межы бацькаўшчыны да нашых братоў-эмігрантаў, — у Францыю, Амэрыку, Аргентыту, — поящь іх там сваей жыватворчай сілай, дарагім водгалосам далёкай роднай зямлі.

Часы цяпер няцікавыя. Робяцца захады і натугі, каб адрэзаць мастака песьні ад тысячаў прагнучых яе братоў. Але сіла хаця-б пасеяных ужо самой песьняю думаў і жаданьняў — пераломе ўсе штучныя бар'еры... Песьня тады пальецца шырака, вольна, магутна...

**А. Горны**

# НА ЧУЖЫНЕ

Ужо нираз на гістарычным шляху беларускага народу найлепшым ягоным сілам прыходзілася кідаць свае родныя сялібы і вандраваць у далёкі сьвет за хлебам ці свабодай. Ужо некалькі сотняў гадоў таму, калі разьвіты прыгонны лад клясавай эксплёатацыі душыў усім сваім цяжарам беларускае сялянства, — найлепшыя сілы народу масава ўцякалі ад галіты і зьдзеку „на ніз“, „у казакі“, на шырокія і вольныя яшчэ сьцяпы Украіны. Уцякалі туды тыя, што не хацелі рабска пад сьвіст бізуноў цягнуць безнадзейна лямку прыгону, уцякаў элемэнт непакорны, бунтарны — найлепшы.

Пазьней, калі да нас прыйшла новая сыстэма эксплёатацыі — капіталістычная гаспадарка — ізноў пацягнуліся сотні тысяч эмігрантаў-выхаджэнцаў з Беларусі ці то ў „Піцер“, Маскву або іншыя прамысловыя асяродкі Расеі, ці то ў Сібір, ці ў канцы ў далёкія заморскія краіны Паўночнай Амэрыкі, у Злучаныя Гаспадарствы і ў Канаду.

У паваенныя ўжо часы, пад дэклямацыйны шумок стацьцей чужых газэт аб аграмадных „вольных“ абшарах на „Kresach“, пацяклі на чужыну новыя хвалі эміграцыі беларускага сялянства. Ехаць прышлося цяпер ужо ў іншыя старонкі сьвету, перадусім у Паўднёвую Амэрыку — ў Аргентыну, Бразылію, Парагвай. З эўрапэйскіх краінаў найбольш эміґравала ў Францыю. Штогодняя сэзонная эміграцыя накіравалася ў Латвію, а апошнім часам і ў Эстонію.

Калі будзем ацэніваць эміграцыю з гледзішча гаспадарчых інтарэсаў народу, дык трэба сказаць, што гэта было для нас зьявішча некарыснае. Ды начай і быць не магло — эміграцыя-ж была акурат вынікам скрыжаванай сацыяльна - нацыянальнай эксплёатацыі нашых зямель. Адплыў пэўнай колькасьці людзей, фактычна не тварыў навет вальнейшага месца іншым, бо на гэтыя месцы прыходзілі тысячы чужынцаў. А тымчасам з нацыянальнага гледзішча гэты найлепшы людзкі матар'ял, адарваны ад роднага загону, вырваны з нацыянальнай масы, губіў, як Антэй, сваю моц і гінуў на хвалях вялікага сьвету.

І так, старая, перадваенная эміграцыя амаль зусім для нас прапала, — улілася ў рады пануючай нацыі данай краіны — як і ў краі, — спалянізавалася, ці зрусыфікавалася ў адпаведных эміграцыйных арганізацыях. Сваіх культурна - нацыянальных арганізацыяў яна не магла яшчэ вытварыць — замала было сьведамасьці ў масах. Такім чынам, цэлымі вякамі падбіраўся гэты цьвет народу, найлепшыя фізычныя і духовыя сілы, выкідаўся за межы роднай зямлі і там вечна служыў творчым угнаеньнем — ці то ў сэнсе фізычным, ці духовым, — для іншых народаў.

У паваенныя часы, паколькі з гаспадарчага гледзішча эміграцыя і надалей зьяўляецца адбіткам сыстэмы гаспадараньня на беларускіх землях, патолькі ў вузка нацыянальным значэньні справа паважна мяняецца на лепшае.

У сувязі з усьведамленьнем шырокімі масамі народу сваіх нацыянальных інтарэсаў, — і тыя, што апынуліся за межамі сваей зямлі ўжо перастаюць чуцца там людзьмі бяз бацькаўшчыны, бяз мовы. Пачынае ўжо расьці зразуменьне, што на якім месцы зямной кулі беларус не апынуўся-б, ён роўна мусе дбаць аб будучыне ўсяго народу, аб долі сваей і ўсіх сваіх братоў. Будзіцца прыгасшае раней

пачуцьцё агульнай і паўсюднай еднасьці, пачуцьцё сваяцтва па мове, крыві і долі. У выніку гэтага за апошнія гады пачало паўставаць многа беларускіх эміграцыйных арганізацыяў у розных эўрапэйскіх і заэўрапэйскіх краінах. У сучасную хвіліну з іх разьвілося некалькі ўжо зусім моцных культурна-нацыянальных асяродкаў. У сувязі з гэтым на будучыну нашай эміграцыі цяпер можам глядзець больш радасна, тымбольш, што нашая эміграцыя часта мае лепшыя варункі культурна-нацыянальнага разьвіцьця, чым маем мы. Перадусім маюць яны найчасьцей вялікія магчымасьці культурна-асьветнай працы, могуць арганізавацца ў культурныя арганізацыі, могуць наладжываць імпрэзы, выдавецтва, могуць і *павінны закладаць беларускія школы.* Адным словам, могуць і павінны разьвівацца ў грамадзкім сэнсе так, каб з аднэй стараны годна рэпрэзэнтаваць беларускі народ на чужыне, а з другой, — калі прыйдзецца ізноў вярнуцца на родныя гоні, — быць тут поўнавартаснымі, перадавымі з культурна-нацыянальнага гледзішча сябрамі нацыі.

Дагэтуль гаварылі мы толькі аб нашай эміграцыі, якую можна было-б назваць *гаспадарчаю.* Але трэба памятаць, што паваенная эміграцыя ёсьць у нас дваякая: *і гаспадарчая і палітычная.* Першая складалася амаль выключна з сялян і работнікаў; другая-ж ізноў пераважна з інтэлігенцыі. Так злажылася, што гэтыя дзьве выхаджэнскія плыні накіраваліся пераважна ў розныя дзяржавы. Дзе былі беларускія сяляне і работнікі, там звычайна не трапляла інтэлігенцыя; і наадварот. У выніку гэтага, — з агульнай шкодай, — марнаваліся інтэлектуальныя магчымасьці інтэлігенцыі; а таксама доўга спалі вялікія нацыянальна-творчыя сілы сялянскай эміграцыі. Як паказывае найбліжэйшая прошласьць і сучаснасьць, найбольш творчымі аказаліся асяродкі, дзе гэтыя дзьве эміграцыйныя плыні з сабою спаткаліся. З гэтага выплывае для нас практычны вывад: *справай жывых, грамадзка дзеючых беларускіх сілаў ёсьць — палажыць натугі ў тым кірунку, каб у кожнай краіне з паважнейшай колькасьцю беларускай эміграцыі знайшліся побач гэтыя абодва дапаўняючыя сябе элемэнты.*

Прыглядаючыся да культурна-нацыянальнай працы нашай эміграцыі, кідаецца перадусім у вочы тая ахвярнасьць і адданасьць, з якой яна праводзіцца. Маюць у гэтым сваё значэньне, ясна, іншыя палітычныя варункі, чымся ў нас. Але перадусім памагала гэтаму тая натуральная на чужыне біолёгічная туга за бацькаўшчынай, за сваім словам. На чужыне людзі мо' найлепш адчуваюць і ўсьведамляюць гэтыя тысячы духовых ніцей, якімі чалавек зьвязаны з родным краем, яго моваю і звычаямі, ягоным складам і ладам жыцьця. Чуюць там моц гэтай магутнай натуральнай любові да свайго загону, сваей вёскі, сваіх пушчаў, рэк, вазёраў і неба, пад якім расьлі. Вось гэтая моц і творыць тую адданасьць, ахвярнасьць і пасыю, з якой беларускія работнікі бяруцца за тварэньне свайго культурна-арганізацыйнага жыцьця на чужыне.

Чытаючы аб тым, як нашыя работнікі недзе ў Францыі, ці Аргентыне складаюць свой цяжка запрацаваны грош на тое, каб наняць для свайго Т-ва лепшае, выгаднейшае памешканьне, каб наладзіць адпаведнае выдавецтва, каб купіць больш кніжак у біблятэку, як навет безработныя, недаядаючы, складаюць па пяць франкаў ці пэзаў месячна на сваю дарагую культурна-нацыянальную справу, — чытаючы аб усей шчырасьці і ахвярнасьці, прыходзіць думка: як

часта іначай бывае ў нас, у краі! Як многа ў нас такіх, штоніводным грошам не даложацца да справы беларускай культуры, або з вялікім толькі трудом кінуць залатоўку на роднае выдавецтва, так патрэбнае, як тут нам, так і братам на чужыне.

*Многа* трэба нам вучыцца ад сваіх далёкіх зямлякоў.

## ФРАНЦЫЯ

Шырокая, дакладная карэспандэнцыя аб варунках жыцьця і працы нашых эмігрантаў у Францыі была зьмешчаная ў двох апошніх нумарох „Беларускага Летапісу“ за 1938 г. І таму тутка падаём толькі некаторыя новыя цікавыя весткі з культурна - нацыянальнай працы нашых францускіх братоў.

І так у сьнежні месяцы 1938 г. залажылася ў Парыжы арганізацыя беларускіх жанчын у Францыі, — *Беларуская Жаночая Грамада*. Першая вечарына - акадэмія гэтай арганізацыі адбылася 11 сьнежня 1938 г. У праграме якой былі рэфэраты, сьпевы, дэклямацыі і скокі.

Як госьці на Акадэміі былі прадстаўнікі Ўкраінскага Работніцкага Саюзу і Ўкраінскай Жаночай Грамады ў Францыі.

Сваю вялікую грамадзкую ахвярнасьць беларускія работнікі ў Францыі выказалі складаючы свой цяжка зароблены грош (а часта нават — паёк безработнага) на куплю машын патрэбных для друкаванага органу беларускай працоўнай эміграцыі ў Францыі.

23 красавіка 1939 г. быў прачытаны ў Парыжы інфармацыйны рэфэрат аб Беларусі. Рэфэрат чытаўся для людзей іншых нацыяў, каторыя цікавяцца беларускай справай.



Прэзыдыя падчас Акадэміі Беларускай Жаночай Грамады ў Францыі. Даклад чытае старшыня Грамады грамадзянка Кардаш; за сталом, як госьць, старшыня Беларускага Работніцкага Хаўрусу ў Францыі, Ян Буйвіла.

# АРГЕНТЫНА

Шлях заросшы дзікім зельлем
мы расчысьцім, выб'ем токам,
па ім з радасьцю, вясельлем
ісьці будзем шпаркім крокам.
Загрыміць слава па сьвеце
аб культуры беларускай;
ясным полымем асьвеце
наш гасьцінец ўжо ня „вузкі“.

*З вершу „Шлях да культуры“ Ю. Федаровіча, зьмешчанага ў аргентынскай расейскай газэце „Новая Газета“.*

Адным з больших асяродкаў паваеннай беларускай сялянскай эміграцыі сталася Аргентына, — краіна з аграмадным абшарам (каля 3 мільёнаў квадратных кілёмэтраў паверхні! — 7 разоў болей, чым абшар Польскай Рэспублікі!) і адносна невялікім насяленьнем. Нашыя эмігранты рассыпаліся па ўсім рознаклíматычным абшары Аргентынскай рэспублікі ад берагоў Атлянтычнага акіяну на ўсходзе, аж да горных хрыбтоў Андаў на захадзе. Спаткаць іх можна і на сухіх заходніх плоскаўзвышшах *пунас* (3500 мэтраў над роўнем мора), і на ніжэйшых, пакрытых лесам і сьцяпамі абшарах — *пампасах,* і на нязвычайна ўраджайных землях аргентынскай Мэзопотаміі ў далінах рэчак Уругваю і Параны. Але найболей згуртавалася іх на берагох сярэбранай Ля Пляты, у двухмільённым Буэнос Айрэс — сталіцы Аргентыны. Там-жа і пачалі некалькі гадоў таму паўставаць першыя культурна - нацыянальныя асяродкі нашай эміграцыі, каторыя, раз заложаныя, нязвычайна скора разьвіліся і размножыліся. Што так сталася — нічога дзіўнага. Свае-ж арганізацыі давалі асьвету, культуру, веду, давалі магчымасьць разам культурна і весела правясьці час, пагутарыць з зямлякамі аб сваей далёкай роднай старане, а галоўнае — заўсёды давалі вялікую маральную падмогу ў цяжкой жыцьцёвай барацьбе на чужыне. Вось што разказвае аб гэтым адзін з нашых аргентынскіх зямлякоў: *)

„У Аргентыну прыехаў я, як і многія іншыя. Расчараваўшыся ў безнадзейнай працы на вузкой пясчанай палосцы зямлі, пастанавіў яе кінуць. Так рабілі многія. Усе стараліся пакінуць існуючую на бацькаўшчыне галіту. Амаль усе беларускія эмігранты, гэта сялянскія сыны з сялянскімі прывычкамі, што прыбылі ў новы сьвет, каб нажыць багацьце і трыумфальна вярнуцца назад да сваей роднай сям'і, да чакаючай дзяўчыны. Ды асягнуць гэта не ўдалося нават і пяці процантам.

Вось гэтыя, такія, як я шуканьнікі шчасьця парадачна выпрабавалі валацужнае жыцьцё, вандруючы таварнымі цягнікамі з сталіцы на гарачую поўнач і халодны ветраны поўдзён, — усё шукаючы лепшага жыцьця. Бачыў я вялізарныя багацьці і страшэнную галіту; культываваныя раўніны і някранутыя людзкой рукой дзікія пустыні; свабодныя ад дзікой расьліннасьці сьцяпы і непраходныя лясы з роем

*) З „Новай Газэты“.



Беларускі хор Т-ва „Культура“ ў Буэнос - Айрэс.

дакучлівай жамяры. Давялося быць у розных гарадох і бачыць многа розных звычаяў і парадкаў. Ды ўсё тым-жа напалавіну жывым нябожчыкам блукаўся я, быццам ні я для сьвету, ні сьвет для мяне.

Аднойчы, блукаючы з зьвісшай галавой па вуліцах шумнай сталіцы, набрыў я на прадаўца газэт... Чытаючы газэту, даведаўся я аб асягненьнях сваіх суродзічаў... Мая безнадзейнасьць уступіла месца вышэйшаму пачуцьцю — надзеі! веры! Я быццам атросься з цяжкага кашмарнага сну. Збудзілася ўва мне бурлівае жыцьцё... Я пастанавіў пабачыць усё асабіста. За праваднікa ўзяў свайго школьнага прыяцеля, каторы ўжо быў сябрам Т-ва „Культура“. Мае адведзіны выпалі яказ у дзень, калі адбываўся сход сяброў, і таму яны моцна мне ўрэзаліся ў памяць“...

Столькі разказвае наш эмігрант, якому беларускае таварыства сталася такім драгацэнным духовым прыстанішчам. І нічога дзіўнага, што арганізацыі, якія спаўнялі такую важную нацыянальна - грамадзкую ролю, раз пачатыя — нязвычайна хутка разрасьліся.

Першае беларускае публічнае прадстаўленьне ў Буэнос Айрэс і на абшары Аргентынскай Рэспублікі наагул адбылося 25 чэрвеня 1938 г. Ладзіла яго Беларускае Т-ва „Культура“. Аб гэтым сэнсацыйна-гістарычным здарэньні ў жыцьці беларускай аргентынскай эміграцыі ўсё Буэнос Айрэс было паведамленае адумысловымі лятучкамі, каторыя ў мовах беларускай, расейскай і гішпанскай усюды і ўсім абвяшчалі:

„Навіна, якой ня бывала! Першы раз у Аргентыне ў беларускай мове! Дня 25 чэрвеня а 9 гадзіне вечара ў выгадным салёне „Vorwaerts“, Rincon 1141, Беларускае Таварыства „Культура“ наладжвае вялікі спэктакль і фамілійную забаву. У праграме: „Мікітаў лапаць“... Беларускія дэклямацыі... Скокі... Хто пабачыць камэдыю „Мікітаў лапаць“, перанясецца мысьляй на сваю далёкую бацькаўшчыну, пабачыць жыцьцё роднай вёскі, пачуець на сцэне родную мову і ўспомніць пра сваё далёкае прошлае. А затым — усе на Rynkon 25 чэрвеня...“

Пасьля пайшлі і іншыя прадстаўленьні, канцэрты, вечары. Апрача беларускіх рэчаў, даецца на іх многа расейскіх, а таксама ўкраінскія і польскія.

У маі сёлетняга году паўстала вялікая думка, якая ўжо шырока абгаварываецца,—каб супольнымі сіламі ўсіх беларускіх арганізацыяў і беларускай эміграцыі ў Аргентыне збудаваць у Буэнос Айрэс ДОМ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ!

Як бачым, драмучыя духовыя сілы Беларускага Народу ў спагадаючых абставінах збудзіліся і разьліліся шырокай ракой культурна-нацыянальнай працы для карысьці і дабра як свайго, так і сваей далёкай бацькаўшчыны. Пажадаем ад сябе, каб гэтая распачатая вялікая праца расла і разьвівалася далей на славу Беларускага Народу. Аб тым-жа, як яна пачыналася, аб яе першых кроках, хай нам раскажуць самі нашыя аргентынцы.

---

**Беларускі арганізацыйны рух ў Аргентыне.** Наплыў беларускай эміграцыі ў Аргентыну пачаўся ў 1926 — 1927 гадох, і ад гэтага часу хвалі яе прыплывалі кажны год. Гнала беларусаў з роднага краю цяжкае эканамічнае палажэньне, ў якім яны апынуліся ў краі. У Аргентыне беларускіе эмігранты першым чынам узяліся за шуканьне працы, што ім удавалася пасьля некаторых натугаў і хлапот, або і бяз гэтага. Бо нягледзячы на тое, што зямлякі нашы ў першы час па прыезьдзе ня ведалі тутэйшай мовы, і ня мелі блізу жаднай прафэсыі,— іх ахвотна прыймалі на розныя прадпрыемствы, да працы за тое, што яны былі працавітыя і вытрывалыя, як мурашкі.

Колькі гора і розных нягод мусілі перанясьці нашы эмігранты на чужыне, пакуль прылажыліся да абставінаў тутэйшага жыцьця. Аднак чаго толькі не перанясець наш беларус-сярмяжнік. Перанёс ён царскае самаўладзтва, сусьветную вайну, а з ей разам нямецкую акупацыю... Пераносіць таксама і жыцьцё за межамі бацькаўшчыны, у новых абставінах і новых дагэтуль наведамых яму формах. Дагэтуль быў ён прылежным селянінам-земляробам. Здавалася-б, што прыбыўшы ў Аргентыну, якая зьяўляецца як і ягоная бацькаўшчына краем земляробскім, — наш селянін займецца галіной працы, да якой ён прывык ад малку — земляробствам. Аднак выйшла інакш: яго пацягнула на фабрыку — майстроўню.

Змяніўшы свой сацыяльны стан з селяніна - земляроба, дробнага ўласьніка, на фабрычнага работніка - пралетара і прытарнаваўшыся памагчымасьці да новага становішча, беларус стаў задумывацца над зьменай формы праводжаньня вольнага ад працы часу, якое адказывала-б яго новаму грамадзкаму становішчу. Ён стаў разглядацца навакол і заўважыў, што праводзіць вольны ад працы час, як дома ў вёсцы на забавах-вечарынках, не здаваляець нашага земляка; ізноўжа і патанцаваць няма дзе. Ён заўважыў, што навокал ракой цячэ культурнае жыцьцё розных нацыянальнасьцяў. Выхадцы-эмігранты розных народаў (не гаворачы ўжо аб мяйсцовых грамадзянах) групуюцца ў культурна-прасьветныя таварыствы і бібліятэкі, якія наладжываюць спэктаклі, канцэрты, пікнікі і розныя другія культурныя імпрэзы, а такжа разьвіваюць і пашыраюць культуру і штуку ў розных яе формах і праявах. Наш эмігрант - беларус, прытарнаваўшыся да новага свайго сацыяльнага стану, у якім ня толькі што зраўняўся з'другімі работнікамі, старымі па кваліфікацыі працы, але ў многіх мясцох паперадзіў іх, — на полі культурным таксама не захацеў астацца ззаду.

Нягледзячы на поўную адсутнасьць культурных і тэхнічных сілаў, ён саматугам на пралом стаў прабіваць сабе дарогу да культуры і прасьветы.

Першае беларускае культурна-прасьветнае таварыства было заснавана 17-го студня 1935 году ў Буэнос-Айрэс. Пасьля яго, у 1937 годзе заснавалася Беларускае Таварыства „Культура“, а ў скорасьці пасьля гэтага — Беларуская Бібліятэка імені Ів. Луцкевіча. Не задоў-

## Я. КУПАЛА

### БРАТУ Ў

Ці помніш ты, нядбалы дружа,
Ўсё тое, дзе радзіўся, узрос?
Дзе напявае зімка стужай,
Ірдзіцца лета бліскам рос?

Аздобнасьць неба — сонца, зоры,
Спавіты месяц туманом;
Русалак ночкай разгаворы,
Шчасьлівых птушак песьні днём?

Ці помніш ты паглёд нясьмелы
Свайго радзімага сяла,
Адкуль паплёўся ў сьвет той белы,
Твая дзе моладасьць сплыла?

Нямое поле, сенажаці,
Лазой аквечаны дзірван;
Магілкі, сьпяць дзе твае брацьці,
На ўзьмежку прадзедаў курган?

Ці помніш прызбу, плот з праслamі,
Сваю хацінку, свой тачок,
Тваймі стаўляныя бацькамі,
Адвекам крыўлены на бок?

та пасьля гэтага, у месяцы верасьні 1938 г. заснавалася Беларускае Таварыства „Белавеж“ культурна-прасьветнага характару. З усяго гэтага відаць, як быццам прарваўшы нейкую перашкоду, бурным руччом пацякло беларускае культурнае жыцьцё, якое ўсхвалявала беларускую калёнію ў Аргентыне, паставіла нашу эміграцыю на шлях, па якім ідуць усе цывілізаваныя народы, а галоўнае — гэты культурна-прасьветны арганізаваны беларускі рух у Аргентыне паказаў народам сьвету, што жыве і жыць хоча беларускі народ.

*Ю. Федаровіч*

**Гісторыя Беларускага Таварыства „Культура“.** Група беларускіх выхадцаў у апошніх днях 1936 году сабраўшыся некалькі разоў у сваіх кватэрах, або ў фабрыках ці сталоўках, пагаварыўшы аб сваіх землякох, якія ў вольны ад працы час блукаюцца бяз ніякой мэты па вуліцах сталіцы Аргентыны ў цемры безпатольнай, — гэта адважная група зрабіла пачатак Вялікай Культурнай справе.

Ужо ў 1937 годзе 17 студзеня аб'яднаўшы навакол сябе аднадумцаў, у невялікім памешканьні, на вуліцы Рондэон 3885, правялі першае паседжаньне таварыства якому далі імя *Беларускае Таварыства „Культура“*. Там-жа быў выбраны ўрад таварыства, у які ўвайшлі наступныя сябры: Вінцэнты Крукоўскі — старшыня, Хведар Крэйдыч — заступнік, Юльян Федаровіч — сэкрэтар, Васіль Клімовіч — сэкрэтар пратаколаў, Пётра Кардэль — скарбнік, Бранiслаў Шулюк і Францішак Лабач — радныя. У рэвізыйную камісію ўвайшлі: Янка Шчука, Уладыслаў Сьпяглянін і Францішак Лабач.

Хто-ж яны, гэтыя сьмелыя пачынальнікі?

Гэта сыны беларускай вёскі. Гэта сялянскія больш паступовыя ідэйнікі, якія больш задумываліся над жыцьцём.

Яны пастанавілі здабыць веду пры помачы вымены думкі і апініі, паступова скідаць непраглядную пакрыўку з сваіх вачэй.

Хаця два гады непасільнай умысловай працы некатарых з іх надламіла, аднак стойкі авангард астаўся на сваім становішчы. Ён з гордасьцю кіруе ўжо не 80 сябрамі, а лічбай на 100 большай. Управа Беларускага Таварыства „Культура“, пры актыўным падтрыманьні сваіх паступовых сяброў, пакрывае месячныя выдаткі ў 200 пэзаў *). Купляе новыя кніжкі, радіо з гучнагаварыцелям, набывае неабходныя мэблі, а такжа розныя тэатральныя прылады.

*) Вартасьць аднае аргентынскае пэзы — 1 зл. 37 гр.

## ЧУЖЫНЕ

Паміж прысад гасьцінец біты —
Пяшчаны, узьвілісты пакат;
Паводкай мост стары падмыты,
Бяроз плакучых сумны рад?

Ці помніш ты сваю матулю,
Што над калыскаю тваей
Пяяла песьню-байку „люлі“,
Снуючы ў думках рой надзей?

Сьвятую песьню родных межаў,
Няхітры мовы свойскай твор,
З якой зьліваецца звон вежаў,
А рэха ловіць цёмны бор?

Ці помніш жніў, касьбы дзень шчыры;
Начлег, агонь сярод кустоў;
Палёты з выраю у вырай
Буслоў, гусей і журавоў?

Убор вясковы, нявыдумны,
Абычай сельскай прастаты...
Край Беларускі мірны, сумны,
Свой родны край ці помніш ты?..

Калі пасьля гадавога застою ў разьвіцьці Таварыства з прычыны нявыгаднага памешканьня, дзе ня было магчымасьці разьвярнуць працу, у сяброў таварыства паявіўся пэсымізм, дасьведчаныя кіраўнікі Т-ва прыйшлі да вываду: зрабіць адзін адважны скок — пазычку грошаў паміж сяброў, на заняцьце новага, больш выгаднага памешканьня. Гэтая ініцыятыва дала нечаканы вынік.

Вось што пішыць карэспандэнт „Новай Газэты“ прысутны на сьвяткаваньні адкрыцьця новазанятага памешканьня, якое адбылося 3 красавіка 1938 году: „На адкрыцьце і ўмэбляваньне новага памешканьня Таварыства была зроблена дабравольная пазычка, на якую некаторыя сябры адклікнуліся целымі месячнымі заработкамі. Нават безработныя неякім дзівам патрапілі дапамагчы Таварыству ў гэтым выпадку 5-мі пэзамі“. Далей, апісываючы памешканьне і вялікую колькасьць прысутных, прызнаець, што першы раз відзіць столькі публікі і яе прыкладнае захаваньне і прадаўжаець... „Прызнаюся, што сэрца забілася з радосьці ў маіх грудзёх глядзячы на мора галоў аб'яднаных адным ідэалам, аднымі лятуценьнямі з нязломнай воляй ісьці наперад да новага культурнага жыцьця“.

Быў таксама зарганізаваны хор дасьведчаным у гэтай справе грамадзянінам Хвёдарам.

У скорасьці пакажа свае мастацкія здольнасьці музыкальны гурток, кіраўніком якога з'яўляецца Язэп Ангуль.

Драматычны гурток, які існуе ад пачатку, робіць хаця павольны, аднак пэўны поступ.

Сталага рэжысэра таварыства нямае, аднак супольнай працай яно ўжо выгадавала такіх аматараў, якія маюць вялікія заслугі на артыстычнай ніве, як напр. Янка Куровіч, які ня толькі праславіўся сваімі выступамі на сцэне, але яшчэ ўладае і другой мастацкай штукай — малярствам, чаго могуць пазаздросьціць яму маючыя ўнівэрсытэцкія студыі.

Развіваюць сваю аматорскую здольнасьць і дзяўчаты — аматаркі як напр. Галена Кезік, Часлава Памецька і другія. Міхась Антановіч, слаўны і прылежны артыст - аматар няўпынна працуе ад самага заснаваньня таварыства, якое яму ўдзячна многім у сваім культурным разьвіцьці. Мае свае заслугі перад Т-вам і Майсей Філіповіч, былы рэжысэр. Гурток скокаў пад кіраўніцтвам Юркі Ежука, патрапіў за ка-

роткі час здабыць сабе славу сваімі выступамі, ня толькі ў нашым таварystве але і ў другіх. Адным словам Беларускае Таварыства „Культура“ паказала, што супольнай і згоднай працай можна шмат зрабіць і здзейсьніць.

*Павал Новік.*

## Р Ы Г А

Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі 6-га 1939 г. ў вялікай салі Латыскага Таварыства ладзіла беларускую вечарыну. Вечарына пачалася рэфэратам кандыдата гісторыі Юлія Брача (ў латыскай мове) на тэму „Латыска-беларускія адносіны“. Пасьля выступіла са сьпевамі жонка старшыні Т-ва, грамадзянка Адэля Дзямідава, і драматычная дружына Т-ва адыграла „Паўлінку“ Янкі Купалы. Вечарына закончылася танцамі.

Рэфэрэнт Ю. Брач калісьці выкладаў латыскую мову ў Рыскай беларускай гімназіі, даволі добра ведае беларусаў і лічыцца адным з нашых прыхільнікаў. Як гісторык, ён спыніўся галоўным чынам на старых узаемаадносінах латышоў і беларусаў за часоў Полацкае крывічанскае дзяржаўнасьці. Што да сучасных узаемаадносінаў, дык выказаўся, што ніякіх фактычна ўзаемаадносінаў цяпер паміж двумя гэтымі народамі няма, і што латышы дужа мала ведаюць аб беларусах. Шукаючы спосабу паправіць справу, радзіў закласьці гурток узаемнага расьледваньня і выказаў надзею, што пры належнай энэргіі магчыма было-б дабіцца арганізацыі катэдры беларускае мовы і літаратуры пры Латвійскім Унівэрсытэце.

Сьпявачка Адэля Дзямідава, з роду Латонас, па нацыянальнасьці літвінка, — выступала з латыскімі сьпевамі і на „біс“ выканала беларускую калыханку. Скончыла яна Латвійскую кансэрваторыю і сьпявае добра; калі над беларускім рэпэртуарам яна захоча сур'ёзна папрацаваць, дык беларускае грамадзтва ў Латвіі будзе мець добрую сьпявачку для сваіх канцэртаў.

„Паўлінку“ ставіў рэжысэр Ф. Дамброўскі - Думбрайс. Гэты спрактыкаваны артыста вельмі захапіўся п'есай і за кароткі час даў добрую пастаноўку. Ролю Паўлінкі выконвала гр. Бедарава. Яна выступае на беларускай сцэне яшчэ з часоў гімназіяльных (з 1923 году), мае добры голас і прыродныя артыстычныя здольнасьці. Тэму ролю сваю выканала дужа добра. Быкоўскага добра правёў старэйшы беларускі артыста ў Латвіі гр. Язэп Камаржынскі, які пачаў выступаць на Дзьвінскай сцэне яшчэ ў 1918 годзе пад рэжысураю ведамага Канстантынава. Ролю Агаты выканала вучыцелька Настася Крэйц; ролю Альжбеты — вучыцелька Люцыя Клагіш - Тэтар; ролю Крыніцкага — вучыцель Язэп Каяла, Пустарэвіча — гр. Р. Лапіч, Сарокі — А. Доўгі.

Ініцыятыву Вучыцельскага Хаўрусу ў справе аднаўленьня беларускіх тэатральных пастановак трэба вітаць ад усяго сэрца, бо пасьля ліквідацыі Т-ва Беларускага Тэатру справа тэатральная ў нас была ў заняпадзе.

Матар'яльныя вынікі пастаноўкі таксама задавальняючыя, хаця-ж і ставілася яна ў надта дарагой салі. Трэба адзначыць, што ў гэтай салі за ўвесь час беларускае працы ў Латвіі беларускія вечарыны адбыліся толькі два разы: 20 год назад І-я наагул у Латвіі беларуская

вечарына, ладжаная Радаю Беларускае Калёніі 17 сьнежня 1919 году, і сёлетняя вечарына, — магчыма што апошняя вечарына Т-ва Беларускіх Вучыцялёў, бо яно па загаду ўрадавых устаноў рыхтуецца да ліквідацыі.

З тэй якраз прычыны, што апошняя беларуская арганізацыя, Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі, па загаду ўладаў павінна хутка зьліквідавацца, праўленьне гэтага Т-ва ўзьняло пытаньне аб дазволе яму перааргнізавацца ў новае Т-ва пад назовам — Таварыства Беларусаў у Латвіі. Статут новага Т-ва ўжо пададзены ў Міністэрства Грамадзкіх Спраў, разгледжаны тамака і — пасьля паправак, апрацаваных Міністэрствам, перададзены на канчатковае зацьверджаньне.

АНАТОЛЬ ІВЭРС

## ВЯСЬНЯНЫ ПАРЫЎ

Зялёным пажарам сінявую шыр
вясна падпаліла ў палёх Беларусі,
а вецер за плотам вішняк цярушыў,
і біцца мацней нехта сэрца прымусіў.

І глянуўшы ў даль — паляцеў-бы туды,
дзе зьніклі апошнія дні ў небасхіле,
дзе нікне ўсхвалёваны хмарачны дым —
ды што-ж, мы ня можам падняць свае крыльлі.

Ў жыцьці мала бачылі сьветлых хвілін —
яно засьцілалася чорным туманам...
А глянь на сады —
зацьвілі,
зацьвілі,
а моладасьць нашая... ўсё яшчэ ў ранах...
І рукі ў мазолях ня знаюць пары:
у полі — з сярпом, на дарозе — з лапатай...
Гэй! Варта спачыць!...
А вясьняны парыў
панёс мае думкі далёка за хаты —
дзе вецер за плотам вішняк цярушыў,
вясна дзе паліла ў палёх Беларусі
зялёным пажарам сінявую шыр,
дзе плавалі ў небе свабодныя гусі...

І я-б там хацеў ўсёй душой адпачыць,
але нам ня можна пакінуць змаганьня:
нам выклююць вочы тады крумкачы —
і мы не пабачым цьвітучае раньне.

*ГІСТОРЫЯ КУЛЬТУРЫ*)*

# ЧАСЫ ШЛІФАВАНАГА КАМЕНЯ

Прыблізна 18.000 гадоў таму назад у Эўропе заняўся золак новага жыцьця, людзі навучыліся ня толькі абіваць, але й шліфаваць каменныя прылады. Пачаўся *нэолітычны век (новы каменны)*. Аднак неадразу адбылася гэтая зьмена, але вельмі паступова і паволі. Чалавек, што пераўжываў той пераходны час, навет не заўважываў перамен, і толькі для нас, наглядаючых здалёк тагачасныя падзеі, гэтыя перамены малююцца, як нейкі пералом.

Скончылася апошняя IV ледавіковая эпоха. Паволі і паступова мяняўся твар Эўропы, яе абрыс, клімат, жывёлы, расьліны. Белае мора адступіла да Ледавітага акіяну; Скандынаўскі паўвостраў злучыўся з Эўропаю паўночнаю часткаю і разлучыўся з ёю часткаю паўдзённаю; аддзяліліся вадою ад Эўропы Вялікабрытанскія астравы і Афрыка; Чорнае мора злучылася з Міжземным. Словам, — абрыс Эўропы паступова наблізіўся да сучаснага. Клімат рабіўся больш мяккім, а разам з тым мянялася расьліннае царства. Палярныя расьліны замяніліся ў сьцяповыя, тундры замяніліся ў сьцяпы. Потым паступова сьцяпы парасьлі лясамі. Цяпло і дажджы пакрылі дрэвамі, быццам кажухом, усю Эўропу. Сярод бязьмежнага ляснога акіяну губляліся астравы сьцяпоў. Расьліннае царства набыло амаль той самы твар, які захаваўся і цяпер: паявіліся яблыны, сьлівы, парэчкі, гарох, проса, пшаніца, ячмень. Сьледам за расьлінамі прынялі сучасны выгляд і жывёлы. Зусім зьніклі касматыя маманты і насарогі, паўночны алень назаўсёды пакінуў паўдзённую Эўропу і перайшоў на поўнач, а ягонае месца заняў алень звычайны. Леапарды і гіены адыйшліся на паўдзён у Афрыку; у Эўропе асталіся толькі львы і зубры. Але хутка загінуў і леў, і толькі зубры аж да сусьветнай вайны жылі яшчэ ў нашай Белавежы. Асталіся ў Эўропе таксама ласі, казулі, дзікія кабаны, рудыя медзьвядзі, ваўкі і т. п.

Вось тыя галоўныя новыя варункі, у якіх зарадзілася новая больш высокая і складаная культура нэолітычнага веку. Да яе найбольш характэрных азнак трэба аднесьці: *шліфаваньне, а ў канцы сьвідраваньне каменных прылад, паяўленьне і пашырэньне глінянага кухоннага судзьдзя (начыньня), прыручэньне хатніх жывёлаў, пачатак земляробства і пачатак пераходу чалавека да аселага жыцьця.* Зразумела, ўсе гэтыя зьявішчы не паўсталі на зямлі адразу, а ўзьнікалі і пашыраліся паступова, па меры таго, як разьвівалася ўсё жыцьцё чалавека. Праўдападобна, што ў пачатку нэолітычнага веку на берагох Міжземнага мора ў Афрыцы і пярэдняй (Малой) Азіі жыла найкультурнейшая раса людзей. З гэтых культурных цэнтраў, падобна да праменьняў сьвятла, пашыраліся па ўсім сьвеце навуковыя, тэхнічныя, мастацкія і рэлігійныя навіны.

Не адразу шліфаваныя каменныя прылады замянілі нешліфаваныя. У пачатку нэолітычнага веку найбольш пашыранымі былі яшчэ дробныя востраканечныя адшчэпкі (мікроліты), і толькі бліжэй да сярэдзіны веку зьяўляюцца ўжо *сякеры з шліфаваным лязом.*

---

*) Гл. „Беларускі Летапіс“ № 1-5 — 1938 г.

Але і гэтыя поўшліфаваныя рэчы тады спатыкаліся рэдка, бо шліфаваньне каменя на камені была цяжкая і марудная праца, вымагаўшая для аднае сякеры некалькі месяцаў работы. У гэтую пару навет зьявіліся новыя формы абіванай сякеры: вялікая кірка, у якой адзін канец востры, а другі долатавідны, і вялікая шырокая сякера-калун. Гэтыя цяжкія сякеры чалавек ужо забіваў у расшчэпленае тапарышча і мейсца злучэньня ўмацоўваў яшчэ рэменем або сухажыльлямі. Аканчальнага-ж росквіту шліфаваныя прылады дасягнулі толькі ў канцы нэолітычнага веку. Чалавек пачаў тады *шліфаваць усю сякеру* і надаваў ей зусім цяперашную форму. Каб палягчыць працу шліфаваньня каменя, ён прыдумаў *пілаваньне каменя.* Пілы былі крамённыя, з аленьняга рогу, нават з цьвёрдага дзерава. Дзеля таго, каб гэткаю пілою можна было пілаваць камень, пад яе ў часе працы падсыпалі мокры пясок. А яшчэ пазьней чалавек пачаў шліфаваныя *сякеры сьвідраваць.* Сьвідры былі таксама пераважна дзераўляныя, і пад іх, як пад пілу, падсыпаўся пясок. Зразумела, цяпер чалавеку ўжо лягчэй было ссякаць дзеравы, бо тапарышча — пераважна з аленьяга рогу ужо моцна трымалася ў дзірцы сякеры. Аднак, шліфаваліся толькі галаўнейшыя прылады: сякеры, далоты і кіркі, а рэшта былі нешліфаваныя. Залішне даўгая праца была шліфаваньне. Ня кожны чалавек - паляўнік меў час на гэтую працу, ня ўсюды быў і добры крэмень. Таму ў тыя далёкія часы былі ўжо капальні гэтага каменя і каля іх адумысловыя майстроўні, дзе выраблялiся прылады.

*Ажывілася тады касьцяная і рагавая тэхніка:* зьявіліся новыя рэчы із касьці і рогу: далоты, кіркі, кручкі для вужэньня рыбы, грэбні, шмат розных дробных прывесак-аздоб у кшталце жывёлаў і птушак, або з выразаным узорам. Аднак грэбні служылі для разчэсваньня не валасоў на галаве, а шэрсьці і сухажыльля жывёлаў. Галоўным матар'ялам для гэтых рэчаў служылі — пасьля зьнікненьня мамантаў — рагі і косьці аленя.

Аднак, найцікавейшаю навіною сярод рэчаў нэолітычнага веку было *глінянае, пераважна кухоннае начыньне:* гаршкі, збаны і г. д. Раней у чалавека таксама было сякое-такое начыньне, але гэта былі скуры і пузыры жывёлаў, вялікшыя ракаўкі, выдзяўбленыя і выпаленыя кавалкі дзерава, лупіны вялікіх арэхаў і яек, чарапы жывёлаў і навет чалавека. Але гэтае начыньне нельга было ставіць на агонь. Цяпер-жа чалавек, дзякуючы глінянаму начыньню, атрымаў магчымасьць ня толькі пячы на агню мяса, як гэта было раней, але *варыць у вадзе розныя зёрны,* якія ў сырым стане былі мала ядомыя. Першае глінянае начыньне вылеплівалася пры помачы кошыкаў, арэхавых лупін, дзераўляных начыньняў: іх у сярэдзіне абмазывалі глінаю і ставілі ў вагонь. Дзераўляныя часткі абгаралі, гліна цьвярдзела, і нарэшце атрымлівалася начыньне, падобнае да яго дзераўлянае формы. Потым чалавек пачаў глінянае начыньне ляпіць проста пальцамі, без дзераўлянае асновы і, здаецца, толькі ў самым канцы нэолітычнага веку ён дадумаўся да ўжываньня ганчарскага кола (кружала). Надта рана чалавек пачаў сваё начыньне аздабляць малюнкамі: спачатку ён рабіў на сырой гліне водціскі звычайнай вяроўкі, а потым кавалачкам касьці вырэзываў усякія ўзоры — ёлачкі, кружочкі і інш.

Плясьці рагожы з лубу чалавек умеў яшчэ ў сярэдзіне. нэолітыч-

нага веку, але толькі ў канцы яго ён пачаў *плясьці тканіны* з шарсьцяных і льняных нітак. А яшчэ трохі пазьней *дадумаўся ён да тканьня* льнянога палатна на самых простых кроснах.

Мяняўся інвэнтар чалавека, мянялася і ягонае жыцьцё. Зразумела, жылі людзі і ў шалашох і ў пячорах, але ў сярэдзіне нэолітычнага веку спатыкаюцца ўжо *зямлянкі*. Чалавек пачаў для жыльля капаць сабе ямы. Сьцены ў іх ён абторківаў жэрдзямі, абкладаў каменямі, страху накрываў галінамі, скурамі, карою. Пасярэдзіне страхі пакідаў дзірку, бо ў зямлянцы агонь гарэў проста на зямлі і дым ішоў у гару. А яшчэ пазьней, калі зьявіліся добра ашліфаваныя прылады і было лягчэй абрабляць дзерава, спатыкаюцца ўжо *хаты*, будаваныя на зямлі. Былі яны з бярвеньняў, з стрэхай, з дзіркамі замест вакон і дзьвераў. Але сьцены звонку і з сярэдзіны былі абмазаныя глінаю, зьмешанаю з сухой травой. У канцы нэолітычнага веку чалавек для большай безпечнасьці будаваў сабе часта хаты на вадзе. Гэта, так званыя *„свайныя будынкі"*. Людзі нарубалі шмат вялікіх бярвеньняў, завострывалі іх сякерамі або агнём і ўбівалі іх густа ў дно возера. Дзеля большай моцы між імі насыпалі яшчэ каменьне. На гэтых сваях клалі насьціл з бярвеньняў і на ім будавалі хаты. Дзеля зносінаў з берагам служылі чаўны або кладкі.

Вялікія, як бачым, зьмены адбываліся і ў чалавечым жыльлі, і ў ягонай снасьці. Але яшчэ большая і найгалаўнейшая па сваіх выніках адбылася зьмена ў самым спосабе чалавечага жыцьця. *Заместа вандроўніка, ён робіцца аселым чалавекам і заместа паляўніка — зямляробам.* Шмат часу вымагала гэтая зьмена, і шмат розных варункаў яе выклікалі. Перадусім непраходныя лясы і балоты прыціскалі чалавека бліжэй і бліжэй да вады — да мора і рэк. Далей з прычыны неразумнага паляваньня, забіваньня матак і маладняку, рабілася ўсё меней і меней зьвяроў і птушак — галоўнай ежы чалавека, і ён пачынае шукаць яе ў вадзе. Паступова галоўнай ягонай ежай робіцца *рыба* і вадзяныя ракаўкі. Каб лепш лавіць рыбу, чалавек прыдумаў касьцяны кручок, пачаў выдоўбліваць дзерава і рабіць з яго човен. А ў той час, як мужчына лавіў рыбу, або паляваў на рэдкую жывёлу і птушак, жанчыны і дзеці зьбіралі на берагох рэк, асабліва мора, розныя ракаўкі. Глінянае начыньне ўжо было; знача, з ракавак магла быць і гарачая страва. Ад гэтага часу захавалася, асабліва на берагох мора, шмат сьлядоў чалавечых стаянак. Адкапаны цэлыя горы лупін ракавак, зьедзеных чалавекам. Сярод гэтых „кухонных астаткаў" знойдзена і шмат розных рэчаў тагачаснага чалавека.

Пры такой зьмене спосабаў дабываньня ежы чалавек ужо ня меў патрэбы так часта, як раней, перасоўвацца з месца на месца. Апрача таго, ня лёгка было цяпер насіць з сабою і цяжкое, крохкае глінянае начыньне. Чалавек пачынае ўжо даўжэй затрымлівацца на адным месцы і паступова пачынае рабіцца больш аселым.

**Ул. Пігулеўскі**

---

**ПРЫСЫЛАЙЦЕ СКЛАДКІ**

**НА „БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС"**

# АДЫЙШОЎШЫМ

## ЛЮДВІК АБРАМОВІЧ

У перадваеннай Расеі грамадзянства дзялілася на дзьве вялікія групы: паступова - дэмакратычную, каторая імкнулася да грунтоўнае перабудовы расейскага гаспадарства на падставах волі й роўнасьці ўсіх грамадзян і ўсіх народаў, і кансэрватыўна - манархічную, якая працівілася ўсім гэтым шляхотным імкненьням, стараючыся захаваць у поўнай меры стары лад — старую няволю пад ўладай самадзяржаўных цароў. Зусім натуральна, што гэтак-званыя „інородцы“, або цяперашнія „нацыянальныя меншасьці“, пазбаўленыя царскай уладай магчымасьці свабодна разьвіваць сваю нацыянальную культуру і прымушаныя атрымліваць сьвятло навукі выключна ў чужой ім і незразумелай расейскай мове, ускладалі вялікія надзеі на перамогу вызвольнага руху ў Расеі, веручы, што з пераменай дзяржаўнага ладу зьменяцца і адносіны гаспадарства да „нацыян. меншасьцяў“. Падобны-ж падзел існаваў і сярод „меншасьцёвых“ грамадзянстваў. І тут адны імкнуліся да нацыянальнага і палітычнага вызваленьня спад улады расейскіх цароў, — з тым, каб у сваім народзе рэалізаваць вялікія ідэалы дэмакрацыі. Прадстаўнікі гэтага кірунку сярод „меншасьцяў“ шчыра йшлі поруч з прадстаўнікамі расейскага вызвольнага руху, маючы супольныя з ім ідэалы і імкненьні. Але адначасна існаваў і сярод „меншасьцяў“ кірунак, падобны да таго, каторы ў царскай Расеі бараніў стары лад. Гэты другі кірунак, прасякнуты ідэаламі дзікога, зоолёгічнага нацыяналізму і варожы да сьветлых ідэалаў дэмакрацыі, лятуцеў аб такой будучыні для свайго народу, у каторай можныя і далей будуць панаваць над працоўным людам, а для „меншасьцяў“, калі гэткія акажуцца, рыхтаваў такую-ж няволю й такія-ж гвалты, як тыя, што чыніла царская ўлада ў Расеі, ў адносінах да сваіх „меншасьцяў“. Вось гэты другі кірунак, ясна-ж, ня мог быць прыхільным да расейскае дэмакрацыі дый да дэмакратычных імкненьняў наагул, але крывадушна прыхіліваўся да барацьбітаў за волю й роўнасьць усіх народаў Расеі, каб выкарыстаць іх перамогу для сваіх цёмных мэтаў...

Такі падзел існаваў і сярод польскага грамадзянства. Але, калі лятуценьні польскіх патрыётаў зьдзейсьніліся, дык аб ідэях дэмакратычных забыўся і шмат хто з тых, што ў даваенныя часы лічылі сябе дэмакратамі. Нацыяналізм — перамог!

Толькі лічаныя адзінкі асталіся вернымі старой сваей ідэолёгіі, — асабліва-ж на землях Беларуска - Літоўскіх, дзе і ў мінулыя часы існавалі вострыя нацыянальныя супярэчнасьці й нацыянальная барацьба паміж здаўна нацыянальна скрысталізаваным польскім грамадзянствам і будзіўшыміся яшчэ толькі да самастойнага нацыянальнага й палітычнага жыцьця беларусамі й літвінамі. Асабліва завастрылася гэта барацьба пасьля таго, як адбудавалася незалежная Польшча. Сярод палякоў утварыўся тут адзіны нацыянальны фронт, каторы з нязвычайным размахам пачаў работу над дэнацыяналізаваньнем беларусаў і літвіноў. І ў гэтым адзіным фронце польскага нацыяналізму апынуліся бязмала ўсе даваенныя дэмакраты...

Адным з нячысьленых польскіх палітычных дзеячоў, якія і пасьля адбудаваньня незалежнасьці Польшчы захавалі свае старыя дэмакратычныя ідэалы, быў шырока ведамы сярод беларускага грамадзянства віленскі польскі публіцыст, даўгалетні рэдактар часапісу „Przegląd Wileński", Людвік Абрамовіч, каторы памёр 9 сакавіка с. г. на 60-ым годзе жыцьця. Шчыры дэмакрат, ён і ў Польшчы дамагаўся волі і роўнасьці для ўсіх „нац. меншасьцяў", слушна лічачы, што Польшча мусіць даць „меншасьцям" такія самыя правы ў сваім гаспадарстве, якіх палякі дамагаліся для сябе пад уладай Расеі. У барацьбе **за нацыянальную справядлівасьць для ўсіх** пасьвяціў апошнія гады свайго жыцьця.

Лёгка зразумець, што дарога, па якой ішоў Людвік Абрамовіч, была для яго цяжкая, цярністая. Часапіс ягоны быў усьцяж канфіскаваны, і гэтак выказываныя ім думкі рэдка даходзілі да тых, для каго былі празначаны. Такі-ж лёс сустракаў і выступленьні на старонках „Przegl. Wil." беларусаў, якія мелі тут адзіную трыбуну, з каторай прамаўлялі да польскага грамадзянства аб сваіх патрэбах, балячках, імкненьнях...

У такіх абставінах трудна было вясьці часапіс, і за паўгоду да сваей сьмерці, Абрамовіч ужо крэпка падупаўшы на здароўі, быў прымушаны зачыніць „Przegl.Wil.". Дый нядоўга пасьля гэтага пражыў сам: счэзла магчымасьць працаваць дзеля сваей ідэі, счэзла і мэта жыцьця...

Апрача публіцыстыкі Абрамовіч займаўся такжа працай навуковай, зварочваючы ўсю сваю ўвагу на мінулае Беларуска - Літоўскага гаспадарства, за грамадзяніна каторага сябе лічыў. Абрамовіч надрукаваў дзьве цэнныя працы з гэтае галіны: „Cztery wieki drukarstwa w Wilnie (1525 — 1925)" і „Problem Litwy podczas wojny światowej. Zbiór dokumentów, uchwał, odezw, i t. p.". Адначасна даваў усякую помач іншым дасьледчыкам мінуўшчыны нашага краю і шмат спрычыніўся да апублікаваньня такіх цэнных для беларусаў прац, як дапрыкладу праф. Голомбка *„W. Dunin-Marcinkiewicz, poeta polsko-białoruski"*, д-р Ст. Станкевіча *„Pierwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej"*, мгр Хв. Ільяшэвіча *„Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie"* і інш.

Да канца жыцьця Людвік Абрамовіч падтрымліваў блізкія адносіны з беларусамі, і беларускае грамадзянства часта бачыла яго на сваіх нацыянальных урачыстасьцях — угодках абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі і г.д. Дык з шчырым жалем праводзілі яго беларусы на месца вечнага супачынку на магільніку Росса, а памяць аб ім захаваюць у сэрцах сваіх надоўга.

**А. Н.**

## ЛЯЛЯ МЭНКЕ

21-га чэрвеня памерла ў Вільні ад сухотаў на 43-ім годзе жыцьця Ляля (Эмілія - Люцыя) Мэнке, па мужу — Кулешавая. Хаця яна паходзіла з нямецкае сям'і, аселае ад веку на Зямлі Беларускай, аднак была вельмі крэпка зьвязана з нашым краем і нашым народам, што й выявілася ў-ва ўсей працы яе нядоўгага жыцьця. Падчас нямецкае акупацыі, калі пачалі ладзіцца першыя беларускія школкі

ў Вільні, яна безынтэрасоўна працавала ў іх, як вучыцелька, прыймаючы адначасна жывое ўчасьце ў працах Беларускага Камітэту помачы пацярпеўшым ад вайны і г. п. Калі-ж пры Беларускім Клюбе зладзіўся пад кіраўніцтвам Пранука Аляхновіча беларускі тэатр, Ляля Мэнке заняла ў ім першае месца, як драматычная артыстка і сьпявачка. У цэлым радзе сцэнічных пастановак, у муз.-вакальных вечарох і г. п. Ляля Мэнке была найвыдатнейшай жаноцкай сілай. Толькі пачатак цяжкое хваробы — сухотаў, на якую яна захварэла, маючы 20 гадоў, спыніў яе карысную працу дзеля беларускае справы. У 1919 годзе, калі ад тэй-жа хваробы паміраў Іван Луцкевіч, Ляля Мэнке, сама нядужая, паехала з ім разам дзеля лячэньня ў Закапанае ды тамака апекавалася ім да самае ягонае сьмерці.

Пасьля таго вярнуцца да беларускае грамадзкае працы ўжо не магла. З кожным годам стан яе здароўя рабіўся ўсё горшым і горшым, і вось цяпер у канцы прыйшла катастрофа.

З шчырым жалем праводзіла яе беларускае грамадзянства да месца вечнага супачынку, успамінаючы ахвярную працу яе для беларускае справы. Літаратурна - Мастацкая Сэкцыя Бел. Навуковага Т-ва ўзлажыла на магілу заслужанае беларускае артысткі вянок з жывых красак.

Вечная ей памяць!

## ЯН СІНІЦКІ

2 траўня с. г. памер у Смаргонях стары беларускі дзеяч Ян Сініцкі, маючы 83 гады жыцьця.

Імя Сініцкага было добра ведама беларусам у часы „Нашае Нівы“. Гэта быў адзін з першых і найбольш сталых падпішчыкаў „Нашае Нівы“, каторую ён стараўся, як мага, пашыраць і ў Смаргонях, і ў вакалічных вёсках. Сініцкі такжа пасылаў у рэдакцыю часапісу карэспандэнцыі аб смаргонскім жыцьці і першых праявах беларускае сьведамасьці сярод працоўнага народу. Заглядаючы ад часу да часу ў Вільню, Сініцкі ўсе вольныя часіны праводзіў у рэдакцыі „Н. Н.“, абменіваючыся шчыра сваімі думкамі з кіраўнікамі і супрацоўнікамі часапісу.

Вайна вельмі цяжка адбілася на лёсе Сініцкага. З прычыны таго, што ваенны фронт — пасьля заняцьця Вільні немцамі — пасунуўся ажна да Смаргоняў, каторыя апынуліся пад абстрэлам артылерыі, Сініцкі мусіў выехаць на ўсход і некалькі гадоў жыць жыцьцём „бежанцаў“ у Расеі. Уся маемасьць ягоная ў Смаргонях: слаўны на ўсю вакругу сад ягоны й дом, — была зьнішчана. Вярнуўшыся пасьля вайны ў роднае места, Сініцкі знайшоў там толькі голую зямлю. Але хутка адсадзіў свой сад, пабудаваўся і гаспадарыў ізноў, як некалі.

З беларускім жыцьцём быў, як і раней, крэпка зьвязаны, але й у агульным жыцьці Смаргоняў іграў выдатную ролю, як сябра мястовага самаўраду. Паводле сваей ідэолёгіі быў блізкі да грамадаўскага руху.

Сініцкі жыў адзінока, быў нежанаты. Лятуцеў аб тым, каб уся ягоная маемасьць пасьля сьмерці пайшла на карысьць беларускага народу і ў 1928 годзе напісаў тэстамэнт, адпісываючы яе Таварыству

Беларускай Школы. Аднак, сталася так, што нябожчык перажыў гэтае Таварыства, якое было праз некалькі гадоў зачынена адміністрацыйнымі ўладамі.

Паміж іншым, у сваім тэстамэнце Сініцкі загадаў, каб яго, як „безвызнанёўца“, пахавалі не на агульным магільніку, а ў ягоным садзе — на акраіне места Смаргоняў. Аднак, адмінстрацыйныя ўлады не далі на гэта дазволу, тлумачучыся тым, што сад Сініцкага ляжыць у межах места...

Сярод беларускага — дый ня толькі беларускага! — грамадзянства Смаргоняў Ян Сініцкі пакінуў добрую памяць, а сьмерць ягоная выклікала агульны і шчыры жаль.

Хай лёгкая будзе яму родная Зямелька, каторую ён шчыра любіў і на каторай усё сваё жыцьцё рупна працаваў, веручы ў сьветлую будучыню свайго народу і краю.

**А. Л.**

# ПРЫЛЯЦЕЛІ ГУСІ

*Народная, в. Шакуны, Пружанскага павету. Запіс Р. Шырмы.*




B
6. Вось адзін сьля-до- - - - -чак ка-ня ва- -ра- -но- - -га,
2. Се-лі я-ны па- - - - - -лі на ці- -хім Ду- -на- - -ю.
mf
2. Се-лі я-ны па- - - - - - -лі на Ду-на-ю.
6. Вось адзін сьля -до- -чак ка- -ня ва-ра-но-га,
mf
f
2. Па-ча-кай-це, гу- - - -сі, я вас за-пы- -та- -ю,
6. а дру-гі сьля- -до- - -чак ды май- -го мі- -ло- -га.
f
p
C
7. Ой, пайду ў са- -до- - - - - -чак, выш-чык-ну лі- -сто- - - -чак
3. Ці з та-го вы кра- - - - - - -ю, скуль мі-ло-га ма- - - - - -ю,
3. Ці з та-го вы кра-ю, скуль мі- -ло-га ма-ю,
7. Ой, пайду ў са- до-чак, выш-чык- -ну лісто- -чак
p
3. Ці з та-го вы кра- - - -ю,
7. Ой, пайду ў са- - - -до- - - чак
3. А мі- -ло-га ма- - -ю ды не пры-ча- -ка-ю.
7. і ва-зьму пры- кры- - -ю мі- - - -ла-га сьля- -дочак.
p
3. скуль мі-ло-га ма- - - -ю,
7. і ва-зьму пры- -кры- - -ю

33




# ВАЙНА ПАЧАЛАСЯ

*Сталася ўрэшце тое, да чаго імкнуўся Гітлер даўно.*

*Прапаганда Гітлера і ягоных памагальнікаў абвяшчала ўсім немцам, што яны — „выбраны народ", пакліканы да валаданьня сьветам. Зьдзейсьніць гэта немцы павінны грубай сілай. Каб мець такую сілу, Гітлер злучыў пад сваей уладай усе нямецкія землі ў Эўропе — Аўстрыю і Судэты. І вось, падгатаваўшы вялізарныя запасы зброі ды ваенных матар'ялаў, павёў Гітлер аб'яднаную Нямеччыну перад усім на заваяваньне сваіх найбліжэйшых суседзяў.*

*Пад пагрозай вайны і фізычнага зьнішчэньня захапіў Гітлер сьпярша маленькую Чэхаславаччыну, няздольную да абароны сваей незалежнасьці. Пасьля адабраў ад Літвы Клайпэду — галоўны выхад яе да мора. Урэшце надумаў захапіць Гданск і — пазбавіўшы гэтак Польшчу гэтага важнага порту — падпарадкаваць і гэтае гаспадарства сваей волі.*

*Але Польшча не спалохалася пагрозы вайны і з аружжам у руках выступіла на абарону сваей незалежнасьці. А на помач Польшчы падняліся вялікія дэмакрацыі Захаду — Англія і Францыя, імкнучыся палажыць урэшце канец гвалтам Гітлера над вольнымі народамі.*

*1-га верасьня Нямеччына распачала вайну з Польшчай. Маючы лічбовую перавагу, немцы пасунуліся ў глыб Польшчы, скідаючы з аэрапляпаў бомбы на польскія гарады, мястэчкі і вёскі, сеючы ўсюды сьмерць і руіны... Але аднычасна з захаду выступілі проці Нямеччыны англійцы ды французы. Англійскія аэрапляны топяць нямецкія караблі на моры, руйнуюць порты, узрываюць фабрыкі ваенных матар'ялаў. А францускія войскі, прарваўшы магутныя нямецкія абаронныя лініі на граніцы з Францыяй, як бура йдуць наперад і ўжо займаюць найважнейшы нямецкі прамысловы вокруг Саары...*

*Вайна йдзе поўным ходам. Дэмакратыю захаду падтрымліваюць усе іншыя дэмакратычныя гаспадарствы сьвету з Амэрыкай на чале. Немцаў-жа ў рашучую мінуту пакінулі нават іхнія нядаўныя саюзьнікі — Італія ды Японія...*

*Ня трудна прадугледзіць вынік распачатае Гітлерам вайны. Каб-жа хутчэй пер... мога дэмакратыі над гітлерізмам дала сапраўдную волю ўсім народам сьвету і забясь... печыла ўрэшце даўгі, трывалы мір!*

## ЗЬМЕСТ



Nr. inv. 162




СКЛАДКІ: 3 зл. на год; 1 зл. 50 гр. на паўгода; асобны нумар 40 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Каралеўская вул. 3-8. Конто: Rozrachunek 91.

Redaktor-wydawca: FELIKS STECKIEWICZ Рэдактар-выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ

Druk M. Bogatkiewicza i Trućko. Wilno, ul. Mickiewicza 22-a